*Дзяржкамітэт па маёмасці вызначыў 23 адкрытыя акцыянерныя таварыствы для прыватызацыі ў 2019 годзе.*

*На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

# Народная Воля

**№ 10 (4365)**

5 лютага 2019 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

XXVI МІНСКАЯ МІЖНАРОДНАЯ КНІЖНАЯ ВЫСТАЎКА-КІРМАШ

"Больш чым кнігі"

**6–10 лютага**
Мінск,
пр. Пераможцаў, 14

MINSK INTERNATIONAL BOOK TRADE FAIR

Экспазіцыя - звыш 300 экспанентаў з 35 краін на пляцоўцы каля 3 тыс. кв.м.

АСНОЎНЫЯ ТЭМЫ ВЫСТАЎКІ

MINSK 2019

Год малой радзімы

II Еўрапейскія гульні

ПРАГРАМА ВЫСТАЎКІ-КІРМАШУ ЎКЛЮЧАЕ БОЛЬШ ЗА 200 МЕРАПРЫЕМСТВАЎ, У ТЫМ ЛІКУ

- V Міжнародны сімпозіум літаратараў "Пісьменнік і час"
- гастратыдзень #смакчытання
- знаёмства з першым у свеце букваром, арыгінальнай кніжыцай Францыска Скарыны 1522 года
- прэзентацыя друкаванай прадукцыі да II Еўрапейскіх гульняў

КНІЖНАЯ ГАЛІНА БЕЛАРУСІ Ў 2018 ГОДЗЕ

выпушчана 279 выданняў тыражом 1,73 млн экзэмпляраў;

кнігі з Беларусі былі прадстаўлены на выстаўках-кірмашах у Германіі, Літве, Казахстане, Кітаі, Польшчы, Расіі, Сербіі, Таджыкістане, Туркменістане, Украіне, Чэхіі.

Крыніца: Міністэрства інфармацыі Беларусі.

© Інфаграфіка БЕЛТА

ДА ЎВАГІ ІНВЕСТАРАЎ

## Хочаце купіць «Гарызонт»? А можа, «Гомсельмаш»?

…Любое прадпрыемства можа быць прыватызавана, гэта залежыць ад кошту і ўмоў здзелкі. Лепшыя прапановы можна атрымаць па выніках конкурсаў, якія праводзяцца пры рэалізацыі больш як 25 працэнтаў акцый прадпрыемстваў. Аўкцыёны арганізуем на Беларускай валютна-фондавай біржы з выстаўленнем мінарытарных пакетаў акцый.

У гэтым годзе акцыі 15 таварыстваў прапануецца рэалізаваць па конкурсе, восем – на аўкцыёнах. У прыватнасці, на продаж выстаўлены дзяржпакеты акцый 10 прадпрыемстваў Міністэрства прамысловасці. Сярод іх ААТ «Кіруючая кампанія холдынга «Гарызонт», ААТ «Мінскі завод ацяпляльнага абсталявання», ААТ «Гомсельмаш», ААТ «БАТЭ» – кіруючая кампанія холдынга «Аўтакампаненты».

Спіс таварыстваў суправаджаюць умовы, якія павінен будзе выканаць патэнцыяльны інвестар. Напрыклад, 49,9 працэнта акцый «Гомсельмаша» могуць быць прапанаваны для продажу на ўмовах рэалізацыі інвестыцыйнага праекта, які прадугледжвае не менш як 500 млн долараў інвестыцый у асноўны капітал, рост аб'ёмаў вытворчасці і рэалізацыі прадукцыі, пашырэнне рынкаў збыту і г.д.




Сфарміраваны пералік не выключае магчымасці прыватызацыі іншых прадпрыемстваў. Мы гатовы да дыялогу. У мінулым годзе былі прададзены кітайскаму інвестару акцыі толькі РУП «Інстытут Белдзяржпраект». Шэраг здзелак быў блізкі да заключэння, але, на жаль, не адбыўся. Некаторыя прадпрыемствы перайшлі ў гэты год з мінулагодняга пераліку. Разам з тым, калі мы бачым, што інтарэс да прадпрыемства не выказваецца, прапануем, напрыклад, або перадаць яго з рэспубліканскай у камунальную ўласнасць, або ставім пытанне аб яго далучэнні да больш моцных прадпрыемстваў.

*(З інтэрв'ю першага намесніка старшыні Дзяржкаммаёмасці А.Васільева БЕЛТА.)*

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА



Борис ЖЕЛИБА, профессор, доктор экономических наук

## Спасет ли нас золотой запас?

По данным Нацбанка, золотой запас страны за 2018 год увеличился на одну тонну и всего составил чуть более 41 тонны.

Телекартинку из гохрана изредка показывают по телевидению, в основном перед президентскими выборами, чтобы электорат полюбовался несметными белорусскими сокровищами. Кроме золота в хранилищах можно заметить и слитки белого металла, то есть серебра. Есть там и другие металлы, которые можно отнести к драгоценным. Однако всё пересчитывается по текущим ценам в золотой эквивалент.

Так много это или мало – 41 тонна презренного металла для такой страны, как Беларусь? Тут надо сравнивать. Конечно, тягаться с такими монстрами, как США (золотые резервы 8133,5 тонны – первое место в мире), Россия (2066,2 т – пятое место) или Китай (1842,2 т – шестое), нам не пристало. Возьмем для сравнения близкие нам по исторической судьбе страны СНГ и Центральной Европы. К примеру, у золотодобывающих Казахстана и Узбекистана золота соответственно 345,4 и 354,5 тонны. А у наших соседей Латвии и Литвы всего 6,6 и 5,8 тонны. Да и у Чехии всего 8,8 тонны.

Как видим, наличие презренного металла еще ничего не говорит о благополучии жителей страны. Более того, у того же Узбекистана получается по Пушкину: «там царь Кащей над златом чахнет», а население живет бедно. А что, россияне сильно разбогатели со своими двумя тысячами тонн желтого металла?

Дело в том, что еще на Ямайской конференции 1976 года страны, входящие в МВФ, принял решение о демонетизации золота: золото лишили платежно-расчетных функций в международной торговле, которая ведется с тех пор главным образом, с использованием нескольких валют, которым МВФ придал статус мировых (резервных). Сейчас это доллар США, евро, английский фунт стерлингов, японская йена, швейцарский франк и китайский юань. Поэтому в большей мере об экономическом потенциале государства в наше время говорят не просто золотые, а золотовалютные резервы, по которым позиции Беларуси весьма слабы. Они, эти резервы, едва покрывают двухмесячный импорт страны, находясь в районе 6–7 миллиардов долларов. Уж больно много ежегодно мы расплачиваемся валютой по растущему государственному долгу.

Конечно, золото и другие драгметаллы можно всегда продать и разжиться мировой валютой. Если, как говорится, припрет. Никто не застрахован от стихийных бедствий, войн и прочих ненастий. Например, Советский Союз во время Второй мировой войны рассчитывался с союзниками (США, Великобританией) за поставки вооружений по ленд-лизу именно золотом. Потому и после, во времена «холодной войны», золотые резервы стран были государственными секретами. Сегодня можно считать, что золотые запасы государства припрятаны на «черный день». И кто даст гарантию, что он не наступит в нашем неспокойном мире?

Если оценивать страны по золотовалютным резервам, то тут позиции Беларуси также незавидны. Например, у нефтедобывающего Азербайджана они 44,4 миллиарда долларов, у Украины – 20,8 миллиарда, у маленькой Хорватии – 20,1 миллиарда, у Польши – 117 миллиардов долларов. По золотовалютным резервам на душу населения наши показатели еще более скромные. У Беларуси это 755 долларов, у бедных Армении и Грузии и то соответственно 760 и 880 долларов, у России – 3190 «зеленых», а у Чехии – 13.390 долларов.

По большому счету за щекой у нашего государства – всего ничего. Живем сегодняшним днем. У России за счет нефти и газа все-таки золотовалютных запасов на 460–470 миллиардов долларов. Белорусы, выходит, должны на Бога надеяться, но не плошать и запасаться самостоятельно, не надеясь на правительство.

ПАД ГРАДУСАМ

## Зіма нагадае пра сябе

Рэспубліканскі цэнтр па гідраметэаралогіі, кантролі радыеактыўнага забруджвання і маніторынгу навакольнага асяроддзя Мінпрыроды прагназуе: у Беларусь на бягучым тыдні вернецца пахаладанне, праўда, ападкаў будзе нямнога.

У аўторак 5 лютага ўначы і раніцай месцамі слабы туман, тэмпература ўначы панізіцца да 1–7 градусаў марозу, пры праясненнях будзе да 8–11 градусаў ніжэй за нуль. Удзень – ад мінус 4 да плюс 2.

У сераду 6 лютага месцамі па краіне пройдзе кароткачасовы снег, мокры снег. У асобных раёнах – слабы туман, на дарогах галалёдзіца. Уначы 1–8 градусаў ніжэй за нуль, удзень – ад мінус 3 да плюс 3.

У чацвер 7 лютага будзе пераважна без ападкаў, толькі ўначы месцамі па паўночным усходзе краіны пройдзе невялікі снег. У асобных раёнах слабы туман, на дарогах галалёдзіца. Тэмпература паветра ўначы складзе 2–8 градусаў марозу, пры праясненнях яна панізіцца да мінус 9–12. Удзень ад 3 градусаў марозу да 3 градусаў цяпла.

У пятніцу 8 лютага ўначы без істотных ападкаў, удзень пад уплывам малаактыўнага атмасфернага фронту месцамі, пераважна па паўночным захадзе краіны, пройдуць кароткачасовыя ападкі, у асноўным мокры снег. У асобных раёнах чакаецца туман, галалёд, на дарогах галалёдзіца. Уначы тэмпература будзе 1–7 градусаў марозу, па ўсходзе краіны пры праясненнях да 9 градусаў ніжэй за нуль. Днём – ад мінус 2 да плюс 4.

ГРОМКОЕ ДЕЛО

## «Уходить надо было вовремя…»

*В правоохранительных органах не комментируют задержание генерального директора БелОМО, доктора технических наук, профессора **Вячеслава Бурского**. В холдинге БелОМО также хранят молчание. «Мы не даем комментариев на данную тему», – сказали «Народной Воле» в приемной генерального директора.*



Тем временем слухи о задержании Бурского появились в конце января. Сообщалось, что правоохранительные органы провели на предприятии выемку документов.

Некоторые средства массовой информации сообщили, что Бурского якобы задержали в России, однако при каких обстоятельствах это случилось – официальной информации нет.

Бурский – известная персона, лауреат Государственной премии БССР, заслуженный работник промышленности Республики Беларусь, награжден орденами «Знак Почета», Отечества II и III степеней.

Сейчас обязанности гендиректора БелОМО исполняет первый заместитель генерального директора – директор по экономике и финансам **Александр Мороз.** В этом году Морозу исполнится 44 года, на предприятии он работает с 1999 года.

Бывший директор концерна «Амкодор» **Василий Шлындиков** неплохо знал Вячеслава Бурского.

– *Нормальный мужик, я к нему хорошо относился, но в последнее время контактов с ним не поддерживал*, – говорит Василий Михайлович. – *Кстати, БелОМО один из немногих холдингов, который еще держался, хотя ясно, что это нелегко было. Пока нет официальной информации о том, что там произошло. Но я знаю, что еще в мои времена желающих скинуть директоров было немало, всем казалось – как там просто в этом кресле директорском сидеть!..*

*Вячеслав Бурский четверть века проработал на БелОМО… Вовремя уходить нужно. С любых должностей. А Бурский этого не сделал. Сейчас, наверное, жалеет… Хотя завод – это была вся его жизнь, другой жизни он и не знал. Сегодня, конечно, его можно только пожалеть…*

**Марина КОКТЫШ.**

ЗАПРАШЭННЕ

## Мечыслаў Грыб нагадвае…

*У «Народнай Волі» за 25 студзеня быў надрукаваны ліст старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 12-га склікання Мечыслава Грыба, у якім ён па даручэнні арганізацыйнага камітэта звярнуўся да былых калег па парламенце. Паколькі сустрэча колішніх дэпутатаў павінна адбыцца праз некалькі дзён, то ёсць неабходнасць паўтарыць тэкст звароту Мечыслава Іванавіча (магчыма, не ўсім трапіў у рукі той нумар газеты). Вось ён:*

«**Шаноўныя калегі!**

Набліжаецца гістарычная дата – чвэрць стагоддзя з таго дня, калі Вярхоўны Савет Беларусі 12-га склікання пасля вялікіх і надзвычай напружаных дэбатаў прыняў першую Канстытуцыю незалежнай Беларусі. З кожным годам мы ўсё больш выразна ўсведамляем, наколькі важна, каб краіна і ўсе яе грамадзяне шанавалі сваю Канстытуцыю, жылі паводле Асноўнага закона дзяржавы. Толькі ў такім выпадку мы дасягнём росквіту Айчыны, будзем шчасліва сябе пачуваць у роднай Беларусі.

Каб убачыцца, падзяліцца ўспамінамі і ўражаннямі аб тых знамянальных днях, разам паразважаць наконт сённяшняга нашага жыцця-быцця, мы прапануем дэпутатам Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 12-га склікання сустрэцца 9 лютага ў 12 гадзін у Мінскім міжнародным адукацыйным цэнтры (праспект газеты «Праўда», 11; станцыя метро «Пятроўшчына»).

Мы былі б вельмі ўдзячныя, калі б Вы загадзя паведамілі пра магчымасць узяць удзел у нашай сустрэчы па тэлефонах: 8-029-641-83-73; (8-017) 242-50-09 або праз электронную пошту volbiel@gmail.com».

ЧУЛІ?

## Першыя жыроўкі па поўным тарыфе прыйдуць не занятым у эканоміцы ў сакавіку

Урад Беларусі вырашыў перанесці тэрміны зацвярджэння мясцовымі органамі ўлады спісаў працаздольных грамадзян, не занятых у эканоміцы, якія аплачваюць паслугі з пакрыццём затрат, і дадаткова інфармаваць грамадзян аб уключэнні іх у названыя спісы. Аб гэтым БЕЛТА паведамілі ў Міністэрстве працы і сацыяльнай абароны.

Да 1 лютага камісіі па каардынацыі работы па садзейнічанні занятасці насельніцтва сфарміравалі спісы не занятых у эканоміцы грамадзян, якія аплачваюць паслугу гарачага водазабеспячэння па тарыфе з поўным пакрыццём затрат на яе аказанне. "*Тыя, хто трапіў у спісы, будуць дадаткова праінфармаваны аб гэтым праз жыроўкі. Пры гэтым налічэнне платы за паслугу гарачага водазабеспячэння па поўным тарыфе за студзень 2019 года праведзена не будзе*", – адзначылі ў Мінпрацы.

Гэта рашэнне дасць грамадзянам, якія трапілі ў спісы, дадатковую магчымасць пацвердзіць сваю занятасць або цяжкую жыццёвую сітуацыю яшчэ і ў лютым 2019 года (раней меркавалася, што тыя, хто трапіў у спісы, ўжо ў бягучым месяцы атрымаюць жыроўкі за студзень з налічэннем аплаты гарачага водазабеспячэння па поўным тарыфе).

*Дзякуй за тое, што Вы прачыталі гэты нумар.*
*Адгукніцеся, калі ў Вас ёсць заўвагі, меркаванні, прапановы, тэмы.*
*Тэл. (8 017) 328 68 71.*

ПАДЛІЧЫЛІ...

## Паводле звестак Мінэнерга



За мінулы год спажыўцы электрычнай і цеплавой энергіі запазычылі пастаўшчыкам 1 мільярд 73,3 мільёна рублёў.

Найбольш злоснымі неплацельшчыкамі з'яўляюцца структуры Нацыянальнай акадэміі навук.

НЕЗАШОРАНЫМ ВОКАМ

# Школьны ператрус

Кіраўнік дзяржавы на мінулым тыдні зноў заняўся школьнымі праграмамі. Як паведамілі афіцыйныя беларускія СМІ, у яго кабінеце адбылася нарада з удзелам найвышэйшых чыноўнікаў сферы адукацыі. На маёй памяці падобных нарад было нямала. Помніцца, як Аляксандр Лукашэнка яшчэ ў дзевяностыя гады разбіраўся з праграмамі па гісторыі Беларусі. Вынік: у цяперашнім міністэрстве лічаць Кастуся Каліноўскага небеларусам і «кіраўніком польскага паўстання», пра жахлівы голад на поўдні Беларусі ў 1932-м і 1933 гадах не згадваюць, сталінскі тэрор канца 1920-х – пачатку 1950-х гадоў падаецца як адхіленне ад «у цэлым слушнай» лініі савецкай камуністычнай партыі. Радыкальны перагляд праграм па беларускай літаратуры прывёў да глабальнага скарачэння гадзін на выкладанне гэтай дысцыпліны, да выкідання 80 працэнтаў найлепшых твораў нашай літаратуры, адмены абавязковых экзаменаў па ёй.

У 2008 годзе адзіны ў краіне палітык азадачыў акадэміка Анатоля Рубінава, уяўленні якога пра школу застылі ў позняй сталінскай эпосе, «выкасіць» праграмы ўсіх гуманітарных прадметаў (каб канчаткова адбіць у дапытлівых вучняў ахвоту імі займацца?). Вынік: рэзка знізіўся ўзровень моўнай падрыхтоўкі дзяцей і падлеткаў – прычым калі раней ахвярай такіх захадаў рабілася выключна беларуская мова, то цяпер вучняў пачалі сістэматычна адвучваць таксама ад камунікатыўнага валодання рускай і іншымі няроднымі мовамі. Падручнікі па грамадазнаўстве або па агульнай геаграфіі ператварыліся ў нудотныя даведнікі, метадычны ўзровень якіх апусціўся «ніжэй за плінтус». Заадно чарговы раз «пачысцілі» ненавісную некаму беларускую літаратуру, прыбраўшы з праграмы нялюбых уладзе нацыянальных талентаў.

Пазалеташнія і леташнія прэзідэнцкія нарады ў галіне адукацыі мелі адносна бяскрыўдныя вынікі: ну што з таго, што бацькі па ўсёй краіне пачалі спазняцца на сваю асноўную працу, паколькі заняткі шмат у якіх школах загадалі пачынаць у дзевяць раніцы?

Падчас нядаўняй прэзідэнцкай адукацыйнай нарады былі выказаны гнеўныя філіпікі пра змест курса біялогіі для восьмага класа базавай школы, дзе вывучаецца жывёльны свет планеты (заалогія). Самае цікавае, што літаральна некалькі тыдняў таму я меў размову з адной настаўніцай біялогіі вышэйшай катэгорыі, якая можа пахваліцца больш як трыццацігадовым стажам працы ў сярэдняй школе. Настаўніца назвала новы падручнік (аўтарства Ірыны ды Аляксандра Бядарыкаў і Уладзіміра Іванова) найлепшым за апошнія дзесяцігоддзі! Іншая рэч, што ва ўсіх нашых суседзяў курс заалогіі вывучаюць яшчэ ў сёмым класе, і ў сувязі з гэтым там сапраўды адводзіцца менш часу на вывучэнне розных тыпаў жывёл. Затое там надаецца куды большая, чым у нашых праграмах, увага вывучэнню асяроддзя існавання раслін і жывёл, пражывання чалавека; тыя праграмы маюць куды больш выразную экалагічную скіраванасць. Аднак чамусьці менавіта гэтага не заўважылі ў свой час таварышы Рубінаў і кампанія!

Горкі досвед паказвае, што пасля чарговых чыноўніцкіх нарад у прэзідэнцкім кабінеце сітуацыя ў нашай адукацыі па большасці кірункаў не паляпшаецца, а пагаршаецца. Наўрад ці Аляксандр Рыгоравіч прыслухаецца да гэтых маіх слоў, але адну параду я яму ўсё-такі хачу выказаць.

Шаноўны найвышэйшы кіраўнік дзяржавы! Запрасіце калі-небудзь у свой кабінет не армаду чыноўнікаў, якія клапоцяцца толькі пра адно – каб не паляцелі іх галовы. Запрасіце (толькі без папярэджання загадзя!) з дзясятак пяці-, шасці-, сямікласнікаў са звычайных школ і нават з гімназій. Папрасіце іх прачытаць уголас хоць бы па некалькі радкоў з Якуба Коласа, Брыля, Тургенева, Астаф'ева, з падручніка па замежнай мове. Спытайцеся на ўсялякі выпадак у іх нешта з табліцы множання, даты Грунвальдскай бітвы або пачатку Другой сусветнай вайны… Спытайцеся, калі і якую мастацкую кніжку яны чыталі апошні раз. Можа, тады вы зразумееце, куды ідзе наша школа і як адгукнецца ў ёй валюнтарызм любога кшталту. Можа, тады клопат пра нашу будучыню, інтэлектуальны ўзровень беларускай нацыі перастане быць для некага адно прыгожым лозунгам.

**Лявон БАРШЧЭЎСКІ,**
**настаўнік і выкладчык сярэдніх школ і ВНУ з 1980 года, кандыдат філалагічных навук, экс-дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 12-га склікання.**

ДЗЯРЖАВА І ГРАМАДСТВА

*Як паведамляла «Народная Воля», Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Грамада) прапаноўвае ўладам безадкладна ўзяцца за вырашэнне шэрагу надзвычай вострых праблем як эканамічнага, так і палітычнага характару.*
*Сёння старшыня БСДП (Грамада) **Ігар Барысаў** разважае пра тое, як павінна развівацца ў краіне партыйная сістэма.*

Ігар БАРЫСАЎ,
старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада), магістр палітычных навук



# ПАРТЫЯМ – ЗЯЛЁНЫ СВЕТ

Некаторыя палітычныя лідары памылкова сцвярджаюць, што можна дамагчыся змен у грамадстве праз эканамічны і грамадскі сектары, забываючыся на тое, што ў першую чаргу павінен быць рэфармаваны палітычны сектар. Без фундаментальных змен існуючай палітычнай сістэмы рэформы ў любым іншым сектары будуць выглядаць касметычнымі, а нерэфармаваны палітычны сектар будзе і надалей якарам любых чалавечых ініцыятыў.

Палітычныя змены ў першую чаргу павінны адбывацца праз прыняцце новай рэдакцыі Канстытуцыі.

У сваім артыкуле я спынюся на тым, як павінна выглядаць партыйная сістэма з пазіцыі Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада).

### Дзяржаўнае фінансаванне палітычных партый

БСДП выступае за прыняцце закона «Аб фінансаванні палітычных партый». Гэты закон здолее вывесці палітычныя арганізацыі з палітычнага маргінэзу, у якім яны апынуліся праз існуючую дзяржаўную палітыку.

Адсутнасць сродкаў на працу партыйнага апарату, прасоўванне сваіх ідэй і каштоўнасцяў, а таксама сродкаў для ўдзелу ў выбарчых кампаніях моцна абмяжоўвае магчымасці ўсіх партый і не дазваляе ім заняць сваё месца ў грамадска-палітычным жыцці краіны. Гутарка ідзе пра тое, каб працаваць так, як працуюць палітычныя партыі Еўропы, большасці краін СНД і далёкага замежжа.

Дзяржаўнае фінансаванне партый азначае, што дзейнасць палітычных арганізацый аплачваецца за кошт беларускіх падаткаплацельшчыкаў, а не ўлады, і не за кошт выключна знешняга фінансавання. Беларусы павінны звыкнуцца з тым, што плюралізм ідэй павінен аплачвацца з сабраных падаткаў. У адваротным выпадку партыйная сістэма будзе і надалей недаразвітая, а некаторыя з палітычных арганізацый патэнцыяльна могуць прадстаўляць інтарэсы знешніх гульцоў.

Пры распрацоўцы дадзенага закона неабходна ўлічыць таксама магчымасць фінансавання палітычных партый і ў прыватным парадку. Памер такіх ахвяраванняў у год ад адной асобы не павінен перавышаць вызначаную суму. У самым пачатку павінен быць закладзены прынцып, у адпаведнасці з якім існуе размежаванне паміж бізнесам і палітыкай.

Зарэгістраваным палітычным партыям за кошт дзяржавы павінны прадастаўляцца офісы ў сталіцы і абласных цэнтрах для размяшчэння ў іх юрыдычных адрасоў і кіруючых органаў. Партыі, якія праходзяць у парламент, атрымліваюць дзяржаўнае фінансаванне.

### Выбары па партыйных спісах

Каб запрацавалі палітычныя партыі Беларусі, неабходна перайсці на прапарцыянальную сістэму выбараў. На першым этапе гэта мусіць быць змешаная прапарцыянальна-мажарытарная сістэма, у адпаведнасці з якой 50% усіх дэпутатаў павінны абірацца па партыйных спісах і 50% – па аднамандатных акругах.

Аптымальным парогам для праходжання дэпутатаў у парламент з'яўляецца 3%. Пры пераходзе цалкам на прапарцыянальную сістэму выбараў гэты парог можа быць узняты да 4–5%.

Кожная палітычная партыя мусіць атрымліваць дзяржаўнае фінансаванне з улікам той колькасці грамадзян, якая аддала за яе свае галасы.

З Выбарчага кодэкса павінны быць прыбраны артыкулы, якія дазваляюць вылучэнне кандыдатаў у дэпутаты ад працоўных калектываў. Гэта рудымент савецкай сістэмы, які з'яўляецца альтэрнатывай палітычным партыям і абмяжоўвае іх развіццё.

Працоўныя калектывы, гэтаксама як і ўніверсітэты са школамі, павінны быць па-за палітыкай. Сустрэчы з кандыдатамі ў дэпутаты, а таксама з прадстаўнікамі палітычных партый павінны адбывацца выключна ў непрацоўны час, адкрыта і па загадзя вызначаных правілах.

У краіне павінны знікнуць пасады ідэолагаў, якія сваім існаваннем парушаюць арт.4 Канстытуцыі краіны, дзе сказана, што «дэмакратыя ў Рэспубліцы Беларусь ажыццяўляецца на аснове разнастайнасці палітычных інстытутаў, ідэалогій і поглядаў. Ідэалогія палітычных партый, рэлігійных або іншых грамадскіх аб'яднанняў, сацыяльных груп не можа ўстанаўлівацца ў якасці абавязковай для грамадзян».

Пасля дэпалітызацыі і дэідэалагізацыі працоўных калектываў можна казаць пра знішчэнне бар'ера ў выглядзе адміністрацыйнага рэсурсу, якім традыцыйна на працягу дзесяцігоддзяў карыстаецца ўлада.

### Правядзенне свабодных і адкрытых выбараў

Палітычная сістэма Беларусі ніколі не запрацуе без правядзення адкрытых, галосных, свабодных і справядлівых выбараў. Любая змена палітычнай сістэмы без сапраўдных выбараў – гэта касметычны рамонт дэмакратычнага фасада, за якім будзе надалей хавацца аўтарытарная сутнасць сістэмы.

Толькі спаборніцтва ў выбарах з рэальным падлікам галасоў здолее расставіць сапраўдныя рэйтынгі палітычных партый і паказаць іх ліквіднасць у вачах выбаршчыкаў.

Дзеля правядзення выбараў у адпаведнасці з дэмакратычнай працэдурай патрэбны як мінімум тры фундаментальныя рэчы: уключэнне ў склад выбарчых камісій усіх узроўняў прадстаўнікоў кандыдата ў дэпутаты (прэзідэнты), скарачэнне альбо скасаванне датэрміновага галасавання і допуск незалежных назіральнікаў да сталоў з бюлетэнямі, каб яны маглі бачыць, насупраць якога прозвішча стаяць адзнакі ў бюлетэнях.

Пры выкананні трох гэтых фундаментальных пунктаў, за якія выступае дэмакратычная апазіцыя (у тым ліку і БСДП), можна казаць пра тое, што выбары адбываюцца ў адпаведнасці з дэмакратычным працэсам.

### Рэгістрацыя палітычных партый і іх структурных падраздзяленняў

На дадзены момант у Беларусі існуе 15 палітычных партый. 7 з іх адносяцца да апазіцыйных і называюць сябе дэмакратычнымі. Кансерватыўна-Хрысціянская партыя – Беларускі Народны фронт стала апошняй партыяй, якая была афіцыйна зарэгістравана 28 лютага 2000 года.

З таго часу сваю рэгістрацыю згубілі Беларуская партыя жанчын «Надзея» і Беларуская партыя працоўных, а неаднаразовыя спробы стварыць партыі аргкамітэтамі палітычных партый Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Народная Грамада), Партыя Свабоды і прагрэсу, а таксама Беларуская Хрысцыіянская Дэмакратыя не прынеслі ніякага выніку.

Не выклікае сумневу, што пытанне нерэгістрацыі новых палітычных партый з'яўляецца палітычным, і дзейны рэжым не зацікаўлены ў з'яўленні новых гульцоў на палітычным полі. Практыка нерэгістрацыі палітычных арганізацый у выпадку адпавядання іх усім патрабаванням павінна быць спынена.

Усе наяўныя палітычныя арганізацыі маюць праблемы з рэгістрацыяй структурных падраздзяленняў у раёнах. Як правіла, партыі маюць офісы ў сталіцы і абласных цэнтрах, а таксама пэўную колькасць зарэгістраваных ці пастаўленых на ўлік структурных падраздзяленняў на прыватных адрасах у раёнах (такое дазвалялася рабіць да 2005 года, і захаваліся тыя раённыя арганізацыі, якія прайшлі перарэгістрацыю і штогод падавалі звесткі ў галоўныя ўпраўленні Міністэрства юстыцыі пры аблвыканкамах).

Цяпер магчымасці зарэгістраваць ці паставіць на ўлік партыйныя арганізацыі на прыватных адрасах няма, і гэта моцна стрымлівае развіццё партыйнай сістэмы ў рэгіёнах – утрымліваць офіс у раёне фінансава непад'ёмна, а здабыць юрыдычны адрас для рэгістрацыі ці пастаноўкі на ўлік раённай арганізацыі партыі фактычна нерэальна.

Тым часам існуе магчымасць для рэгістрацыі на хатнім адрасе прыватных унітарных прадпрыемстваў, а таксама прыватных устаноў. Падобная практыка рэгістрацыі і пастаноўкі на ўлік структурных падраздзяленняў палітычных партый мусіць быць вернута, бо дае магчымасць ад імя раённых арганізацый выступаць з заявамі, весці перапіску з дзяржаўнымі органамі, вылучаць сваіх сяброў кандыдатамі ў дэпутаты, у склад выбарчых камісій і назіральнікамі.

Колькасны склад кіруючых органаў раённай арганізацыі дазваляе сабрацца ўсім на прыватным адрасе, а ў выпадку правядзення агульнага сходу памяшканне павінна прадастаўляцца райвыканкамам бясплатна.

### Заканадаўчая ініцыятыва палітычным партыям

Палітычныя партыі павінны стаць не аб'ектам, а суб'ектам палітыкі. Дзеля гэтага яны павінны мець больш шырокія паўнамоцтвы. Сярод іх можна акрэсліць як мінімум дзве: магчымасць выступаць з заканадаўчымі ініцыятывамі як на мясцовым, так і на нацыянальным узроўнях, і магчымасць звяртацца ў Канстытуцыйны суд на праверку адпаведнасці заканадаўства Канстытуцыі.

Заканадаўчая ініцыятыва дазволіць палітычным партыям выступаць з прапановамі па новых законах і зменах існуючых, а таксама ўносіць свае законапраекты ў парадак дня пасяджэнняў мясцовых Саветаў дэпутатаў і парламента. Законатворчая ініцыятыва актуальна пры мажарытарнай альбо мажарытарна-прапарцыянальнай сістэме выбараў, калі ў мясцовых Саветах і парламенце знаходзіцца значная колькасць беспартыйных дэпутатаў. У гэтым выпадку палітычныя партыі могуць уносіць свае прапановы, нават не маючы сваіх дэпутатаў у парламенце.

Але нават пры прапарцыянальнай сістэме выбараў заканадаўчая ініцыятыва для палітычных партый таксама не губляе свайго значэння – яна дае магчымасць шукаць прыхільнікаў з ліку прадстаўнікоў іншых партый альбо праз сяброўскія і партнёрскія партыі прасоўваць свае ініцыятывы. Гэтая норма павінна быць дададзена да арт.99 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. У гэтым выпадку праекты законаў і паправак да іх, якія прапануюцца палітычнымі партыямі, абавязкова ўносяцца ў парадак дня.

### Вулічныя мерапрыемствы і прадастаўленне тэлеэфіру лідарам палітычных партый

Немагчыма ўявіць сабе паўнавартасную працу палітычных арганізацый без пастаяннай прысутнасці іх прадстаўнікоў на тэлебачанні.

Да гэтага часу тэлебачанне з'яўляецца асноўнай крыніцай атрымання інфармацыі для больш за 50% беларусаў, таму для палітычных партый з іх лідарамі пытанне прысутнасці на ім з'яўляецца важным і прынцыповым.

Прысутнасць прадстаўнікоў палітычных партый на тэлебачанні павінна быць вызначана на заканадаўчым узроўні. Толькі ў гэтым выпадку будзе гарантаваны плюралізм думак, і грамадства будзе самастойна выбіраць, за якую партыю ці за якіх партыйных лідараў аддаваць свае галасы.

На дадзены момант існуе вялікая перашкода для правядзення масавых мерапрыемстваў для дэмакратычных партый і арганізацый. Па-першае, колькасць месцаў для іх правядзення моцна абмежавана; па-другое, падача заявак на іх правядзенне мае двухтыднёвыя тэрміны, што не дазваляе аператыўна рэагаваць на палітычныя падзеі ў краіне; па-трэцяе, дазвол на правядзенне мерапрыемства становіцца вядомы ўсяго за некалькі дзён, што складае праблемы для арганізатараў; па-чацвёртае, існуе пастаянная праблема з заключэннем дамоў з міліцыяй, медыкамі і камунальнікамі на абслугоўванне тэрыторыі.

У краіне павінен з'явіцца прынцып, у адпаведнасці з якім дазволена ўсё, што не забаронена, а не наадварот. У гэтым выпадку колькасць маршрутаў і месцаў для правядзення мітынгаў павінна істотна ўзрасці.

Заяўкі на правядзенне акцый і пікетаў павінны насіць выключна паведамляльны характар і адбывацца без удзелу міліцыі, медыкаў і камунальнікаў.

Заяўкі на правядзенне мітынгаў павінны разглядацца на працягу трох дзён, а заключэнне дамоў з міліцыяй, медыкамі і камунальнікамі павінны насіць не дазваляльны, а фактычны характар.

Пры выкананні ўсіх гэтых умоў палітычнае жыццё краіны здолее вярнуцца да нармальнага, а беларусы здолеюць самастойна вызначаць свой лёс праз свае індывідуальныя палітычныя перавагі.

*Зарэгістраваныя Міністэрствам юстыцыі палітычныя партыі павінны атрымаць фінансавую падтрымку за кошт дзяржаўнага бюджэту. Парламент як заканадаўчы орган працуе на прафесійнай перманентнай аснове. БСДП выступае за дэпалітызацыю працоўных калектываў: работнікі прадпрыемстваў, арганізацый і ўстаноў не маюць права вылучаць сваіх прадстаўнікоў кандыдатамі ў дэпутаты розных узроўняў, а таксама ў выбарчыя камісіі. Дадзеная функцыя пераходзіць выключна да палітычных партый і грамадзян па месцы жыхарства.*

ВАНДАЛІЗМ

# Каму перашкаджае «лава Клінтана»?

*Ва ўрочышчы Курапаты ў чарговы раз пашкодзілі мемарыяльны знак.*

15 студзеня 1994 года прэзідэнт ЗША **Біл Клінтан** наведаў Беларусь з афіцыйным візітам. Завітаў і ва ўрочышча Курапаты – месца масавага пахавання ахвяр сталінскага рэжыму пад Мінскам. У памяць пра наведванне гэтага месца амерыканскім прэзідэнтам і быў усталяваны невялікі мемарыяльны знак, які атрымаў назву "Лава Клінтана".

На знаку надпіс – "Ад народа Злучаных Штатаў Амерыкі народу Беларусі дзеля памяці".

Каменную лаву спецыяльна прывезлі з ЗША за дзень да візіту Клінтана і ўсталявалі ў Курапатах у ноч на 15 студзеня.

Некалькі разоў гэтую лаву спрабавалі зруйнаваць, але яе кожны раз аднаўлялі. Апошні раз 19 снежня мінулага года лаву хацеў разбурыць вандал з кувалдай і сякерай, але яго спынілі абаронцы Курапатаў.

Падазронага чалавека з кувалдай і сякерай у руках заўважылі, у выніку ён уцёк. Затрымаць не ўдалося, відаць, на кальцавой дарозе яго чакаў аўтамабіль.

Актывісты не выключалі, што гэты вандал мог мець дачыненне і да пашкоджання мемарыяльнага знака ў Курапатах, якое выявіла раней скульптар **Вольга Нячай**. На знаку яна ўбачыла драпіны ў выглядзе зоркі Давіда.

Вядома, што праверкай па гэтых фактах займалася міліцыя Бараўлянскага аддзела Мінскага РУУС.

*"Калі стала вядома, што "лава Клінтана" разбурана на чатыры кавалкі, я адразу патэлефанаваў па "02" у міліцыю і паведаміў пра здарэнне*, – распавёў "Народнай Волі" **Зміцер Дашкевіч**. – *Са мной затым звязаліся таксама па тэлефоне, задалі некалькі пытанняў. Хаця міліцыю я не чакаў і ніякіх афіцыйных пакаранняў не даваў".*

Зміцер Дашкевіч не спадзяецца, што вандалаў знойдуць.

*"Мяркую, што міліцэйскае расследаванне закончыцца тым жа, чым і расследаванні папярэдніх актаў вандалізму ў Курапатах, – нічым*, – кажа ён. *– Мінулым летам у Курапатах выламалі крыжы, затым на дзяржаўным мемарыяльным знаку рабілі малюнкі, у рэшце рэшт, зараз лаву разбілі. І нікому гэта, відаць, не цікава. У той жа час некалькі аўтобусаў міліцыянераў у цывільным ахоўвае рэстаран ля Курапатаў. Вось што цікава ў сучаснай Беларусі! Аказваецца, рэстаран для міліцыі важней, чым помнікі дзяржаўнага значэння ў Курапатах. Апошнія, напэўна, ахоўваць не трэба".*

У прэс-службе Мінскага РУУС учора так і не змаглі даць афіцыйны каментарый па гэтай справе. З неафіцыйных крыніц стала вядома, што вандалы да гэтага часу не затрыманы, а праверкай займаецца Следчы камітэт.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ЛИЧНЫЙ СЧЕТ

# Сколько зарабатывает шоумен Владимир Зеленский – один из претендентов на пост президента Украины



Шоумен Владимир Зеленский обнародовал свою декларацию за 2017 год. Он получил в прошлом году:

- зарплату в размере 1,5 млн гривен;
- гонорары и роялти в незначительных размерах;
- страховые выплаты в сумме 252 тыс. гривен;
- доходы от предпринимательской деятельности в размере 4,3 млн гривен;
- доход от предоставления имущества в аренду – 1,2 млн гривен;
- проценты – 609.165 гривен.

Средства, размещенные на счетах латвийского и украинского филиалов «ПриватБанка», составляют 433 тысячи долларов и 64 тысячи гривен.

В банке ОТР у комика хранится 1 млн гривен, 115 евро и 8 тыс. долларов, в банке «Глобус» – 69 тыс. гривен.

Шоумен хранит **наличность** в размере 285 тыс. долларов, 50 тыс. евро и 220 тыс. гривен.

### Где живет

- У Зеленского есть жилой дом площадью 353,5 кв. метра;
- земельный участок в 1200 кв. метров в селе Иванковичи Васильковского района Киевской области;
- квартиры в Киеве площадью 254,5 кв. метра, 198,6 кв. метра, 131,9 кв. метра;
- в Великобритании две квартиры площадью 91,9 кв. метра, парковочные места.

Жена Зеленского Елена владеет квартирами и парковочным местом в Ялте, Киеве, нежилыми помещениями в Киеве.

На третьих лиц зарегистрированы две киевские квартиры площадью в 269,7 кв метра, парковочные места.

### На чем ездит

Также у шоумена есть Land Rover 2016 года регистрации, а его жена Елена владеет автомобилем марки Mercedes-Benz S 500 4 Matic 2014 года.

### Драгоценности

Вместе с тем на супругов задекларированы часы марок:

- Breguet;
- Tag Heuer;
- Rolex;
- Piaget;

### Ювелирные изделия:

- Graff;
- Bovet;
- Breguet.

### Активы

Семья Зеленских имеет долговые ценные бумаги, акции компаний, которые прописаны на Кипре и Британских Виргинских островах.

Корпоративные права компаний «Киноквартал», «Студия квартал-95», «Зелари фиш», «Продюсерский центр «Лига смеха», «Анимационная студия 95», «Квартал ТВ», «Инвест анима», «Гауди студио» и «Квартал-концерт» разной стоимости.

В собственности Зеленского также оформлены юридические фирмы с пропиской в Украине, Италии, Кипре, Белизе и Британских Виргинских островах.

Из нематериальных активов в декларации шоумена указаны патенты и торговые знаки для товаров и услуг.

**Любовь МЕЛЬНИКОВА, ubr.ua.**

КОММЕНТАРИЙ

# А чего достигли вы?

Декларация о доходах кандидата в президенты Украины Владимира Зеленского не произвела внутри страны эффекта разорвавшейся бомбы. Пожалуй, публика слегка повозмущалась тем, что у популярного шоумена – а теперь еще и политика – продолжают оставаться фирмы на территории Российской Федерации, но сам по себе размер капитала никого не удивил. Возглавляемый им «Квартал-95» – один из самых успешных развлекательных проектов; сам Зеленский активно снимался в кино, сериалах и рекламных роликах, да и гастролировать за пределами Украины его коллектив не уставал.

Да, российский шоурынок для Зеленского однозначно захлопнулся, но зато богатый и щедрый политический рынок внутри самой Украины для него как раз и открылся. Тем более если учесть еще одно обстоятельство: шоу Зеленского выходит на одном из самых популярных украинских телеканалов – «1+1» (пресловутых «плюсах»), собственником которого является небезызвестный олигарх, владелец банков, заводов, авиакомпаний Игорь Коломойский.

Вопрос в том, какое отношение декларация об имуществе и доходах одного из кандидатов в президенты Украины имеет к нам, гражданам Республики Беларусь. Там ведь не наша политическая война. Почему же о Зеленском?

Собственно говоря, не только о Зеленском.

Свыше 80 граждан, желающих участвовать в президентской гонке Украины, уже подали в свой ЦИК заполненные документы, в том числе и декларации. Зеленский среди них – далеко не самый богатый. Да, лидирует миллионер Петр Порошенко – но он и был миллионером задолго до своего избрания президентом. А все остальные – супербогатые, очень богатые, просто богатые. Состоятельные.

И – состоявшиеся. В Украине не стыдно быть богатым. Наоборот. Люди стремятся к богатству, хотят быть богатыми, уважают богатых. Олигархов, присосавшихся к власти, конечно, ненавидят. Но к богатым относятся хорошо. Для избирателей состоявшийся человек – гарантия того, что он смог позаботиться о своей семье и позаботится о них. Потому что знает, как зарабатываются деньги. Или по крайней мере не будет мешать зарабатывать и остальным.

У нас в Беларуси тоже выборы вот-вот объявят. И нужно будет нести документы в «любимую» ЦИК, к вечной Лидии Ермошиной. В том числе – и заполненную декларацию.

Что напишет в ней оппозиционный кандидат? Какую историю успеха он сумеет предъявить согражданам?

Дело ведь даже не в деньгах. История успеха – это в широком смысле. Нужно будет убедить избирателя в том, что я чего-то в этой жизни смог добиться, чему-то выучился сам и смогу стать достойным примером для всей страны. Да, не стал миллионером, но жизнь прошла не бесцельно – и не безрезультатно. Потому что можно написать многостраничную программу о миллионе рабочих мест, но ты-то на одном-единственном, своем рабочем месте – чего достиг? Борьба борьбой, но в перерывах между отсидками, митингами и боевой вахтой против компрадорской буржуазии – за что тебе деньги платили?

В 2010 году проще всего было Владимиру Некляеву. Он был живым олицетворением профессионального успеха. Никому не нужно было объяснять, чем он занимался до прихода в политику, за счет чего жил сам и жила его семья. И народ относился к этому с должным уважением и пониманием: да, поэт, – но не всем ведь колхозами руководить и взятки в должностях главврачей и заместителей министров брать. Кто-то и хорошие стихи писать должен – тем более что это очень тяжелая работа.

Двадцать пять лет нынешней власти – срок большой. За это время те оппоненты ее, кто мог похвастаться карьерой в долукашенковской Беларуси (да еще и в БССР), либо вышли на пенсию, либо просто умерли. Остальные маргинализировались. Только сейчас появилась та молодая когорта, для которой оппозиционность не означает профессионального стояния с протянутой рукой. Да, на дело они деньги готовы собирать. Но на собственную жизнь, на содержание семьи они заработают. И это не может не вызывать уважения.

Вопрос в том еще, что успех необходимо предъявлять всем – включая самого себя. Нужно задаться вопросом:

– Кто я такой?

И ответить на него.

А вот с этим тяжело.

Ты экономист? Покажи, каких клиентов ты консультируешь. Ты деятель культуры? Докажи, что тебя признает культурное сообщество. Ученый? Где твои труды, какова их значимость? Партийный работник? Огласи списочный состав партии и выставь для начала от своей партии тысячу «штыков» наблюдателей на участки для голосования – потому что по закону в Беларуси партия должна иметь не менее тысячи членов.

В общем, украинским кандидатам есть что предъявить избирателю. А чего достигли вы?

**Александр ФЕДУТА**

ЗАПРАШЭННЕ

# «Кнігі не прадаюцца, а перадаюцца ў дар…»

*Амбасада Германіі і Інстытут імя Гётэ прадставяць на XXVI Мінскай міжнароднай кніжнай выставе-кірмашы кнігі з Германіі.*

«У гэтым годзе амбасада запрашае ў захапляючае кніжнае падарожжа па фантастычным сусвеце нямецкіх казак і легенд! – распавялі «Народнай Волі» ў пасольстве. – Вас чакаюць вядомыя і невядомыя нямецкія гісторыі, якія вы можаце прачытаць і паслухаць. Завершанасць кніжнай калекцыі з больш як 300 выбраных кніг надаюць асабліва прыгожыя фотаальбомы, а таксама разнастайныя кнігі для дзяцей і юнацтва».

Стэнд Інстытута імя Гётэ будзе прысвечаны актуальнай падборцы новай нямецкамоўнай белетрыстыкі, а таксама калекцыі кніг, прысвечаных жыццю і творчасці Франца Кафкі – аднаго з найвядомейшых нямецкамоўных пісьменнікаў. Цэнтральным пунктам экспазіцыі Інстытута імя Гётэ стане інсталяцыя «Vrwandlung» («Метамарфоза VR»), якая, перанесеная ў віртуальную рэальнасць, уяўляе сабой класічны твор сусветнай літаратуры – навелу Кафкі «Die Verwandlung» («Ператварэнне»). Версія адной з найвядомейшых навел XX стагоддзя, якая выканана ў віртуальнай рэальнасці, перанясе наведвальнікаў выставы-кірмашу ў свет галоўнага героя Грэгара Замзы і дазволіць адчуць на сабе ператварэнне ў велізарнае насякомае.

Асаблівасцю стэнда Пасольства Германіі з'яўляецца тое, што прадстаўленыя на ім кнігі не прадаюцца, а па традыцыі па заканчэнні выставы-кірмашу перадаюцца ў дар беларускім школам і іншым установам, якія на працягу ўжо многіх гадоў уносяць свой уклад у папулярызацыю і вывучэнне нямецкай мовы і культуры.

Прадстаўнікі нямецкіх арганізацый у галіне культуры і адукацыі раскажуць аб сваёй дзейнасці і будуць гатовы адказаць на пытанні наведвальнікаў на стэндзе Пасольства Германіі:

***6 лютага 2019 года***

*13.00–17.00* – гістарычная майстэрня імя Леаніда Левіна, у тым ліку:

*15.00–16.00* – прэзентацыя кнігі Габрыэля Хайма «Я не хачу чарнічнага торта, я толькі хачу з'ехаць адсюль: Матчына любоў у пісьмах».

***7 лютага 2019 года***

*13.00–18.30* – Германская служба акадэмічных абменаў (DAAD).

***8 лютага 2019 года***

*16.30–19.00* – Цэнтральнае ўпраўленне па справах нямецкай школьнай адукацыі за мяжой (ZfA).

На стэндзе Інстытута імя Гётэ наведвальнікі выставы могуць атрымаць кансультацыю адносна моўных курсаў і даведацца, якую літаратуру бібліятэка Інстытута імя Гётэ прапануе ў лічбавым фармаце, а таксама пазнаёміцца з новым праектам Інстытута імя Гётэ «Дыгітальны дзіцячы ўніверсітэт», узяць удзел у інтэрактыўным ралі з выкарыстаннем мабільных тэлефонаў...

Мінская міжнародная кніжная выстава-кірмаш пройдзе ў выставачным павільёне на праспекце Пераможцаў, 14. Адкрыццё адбудзецца ў сераду 6 лютага ў 12.00 гадзін.

З НАГОДЫ

# …А таксама ікона ад прэзідэнта Малдовы



Сёлета спаўняецца 660 год з часу заснавання Малдаўскай дзяржавы. З нагоды Дня незалежнасці 2 лютага ў Пасольстве Рэспублікі Малдова ў Беларусі адбылася вечарына, на якой рэй вёў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Малдовы ў Беларусі **Віктар Сарачан**.

Ва ўтульнай зале, упрыгожанай прыгожым партрэтам нацыянальнага героя Малдовы Стэфана Вялікага, сабраліся запрошаныя на вечарыну прадстаўнікі малдаўскай дыяспары ў Беларусі. Віктар Сарачан павіншаваў прысутных са святам і паведаміў аб шляхах развіцця Малдовы і аб дружбе малдаўскага і беларускага народаў.

У тыя далёкія часы, у 1362 годзе, князь ВКЛ Альгерд Вялікі ў вялікай бітве на рацэ Сінія Воды разграміў войска татарскіх заваёўнікаў, васалаў Залатой Арды, што перашкодзіла татарам авалодаць землямі Малдовы.

У 1410 годзе, у час Грунвальдскай бітвы з крыжакамі, прадстаўнікі малдаўскага народа ваявалі ў складзе войска вялікага князя літоўскага Вітаўта.

Спадар пасол адзначыў, што Малдова гатова падтрымліваць сяброўскія адносіны з многімі краінамі, аднак будзе адстойваць сваю незалежнасць і не ўвойдзе ні ў склад Румыніі, ні ў склад якой-небудзь іншай краіны.

Цікавым было выступленне жыхара Дзяржыншчыны малдаваніна **Васіля Семенюка**, які расказаў легенду аб стварэнні Малдовы, а таксама паведаміў прысутным аб сваіх родзічах, якія ў часы сталінскіх рэпрэсій былі сасланы ў Сібір. Дарэчы, і сам ён нарадзіўся ў Сібіры, куды былі выселены яго бацька і маці. Жывучы ў Беларусі, Васіль Семянюк вывучыў беларускую мову, піша вершы, некаторыя з якіх былі пакладзены на музыку.

Спадар пасол і **Георгій Пушкаш,** прадстаўнік дыяспары, урач, цудоўны паэт, адзначылі, што іхнія родзічы таксама былі сасланы ў Сібір. Напэўна, няма ніводнай малдаўскай сям'і, якая не згадала б сталінскія рэпрэсіі.

Цікавым было выступленне старшыні малдаўскай дыяспары ў Беларусі **Антаніны Валько**, якая разам з цудоўнай спявачкай Ілзай Алахвердзян праспявала некалькі малдаўскіх песень.

Напрыканцы вечарыны Віктар Сарачан уручыў Георгію Пушкашу дыплом і прыгожую ікону – каштоўныя падарункі ад прэзідэнта Малдовы **Ігара Дадона**.

**Лявон ЦЕЛЕШ.**

СКАНДАЛ

# Обмен нелюбезностями



В конце недели Соединенные Штаты Америки и Российская Федерация почти одновременно объявили о выходе из Договора о ракетах малой и средней дальности. Фактически это означает, что гонка вооружений может начаться вновь.

Тот договор был подписан Михаилом Горбачевым и Рональдом Рейганом и с тех пор считался одним из основных документов, обеспечивающих паритет сил двух тогдашних сверхдержав. Баллистические ракеты были уничтожены, стороны также взяли на себя обязательство не разрабатывать, не испытывать и не производить подобное оружие. Таким образом, исчезла необходимость в создании новых ракетных баз, а стало быть, и в размещении их на территориях других государств.

Теперь президент России Владимир Путин поручил главе российского МИД Сергею Лаврову прекратить дальнейшие переговоры с американской стороной. Он также констатировал, что если США начнут изыскания по совершенствованию данного вида вооружения, то и Россия займется тем же. Правда, подчеркнул российский лидер, пока Россия не намерена втягиваться в гонку вооружений.

Тут, разумеется, следует отметить, что сегодня у России нет финансов, чтобы втягиваться в эту дорогостоящую гонку. Падение цен на нефть, последствия введения санкций после аннексии Крыма да и продолжение далеко не дешевых военных действий в юго-восточных районах Украины, в Сирии – все это серьезно уменьшило число свободных ресурсов. Добавим к этому и необходимость постоянной финансовой поддержки «дружественных» режимов вроде венесуэльского. Кошелек, как говорится, не бездонный.

Однако отвечать на вызовы Администрации Дональда Трампа Кремль все-таки вынужден. Путин искренне боится потерять лицо и продемонстрировать свою экономическую и оборонную слабость. Можно допустить дыру в обшивке космического корабля, как случилось совсем недавно, над чем смеялся весь мир. Но уж никак нельзя показать, что у тебя нет возможности адекватного ответа на тот или иной шаг со стороны Вашингтона.

Чем эта ситуация чревата для Беларуси?

Прежде всего удорожанием российской помощи. Если Кремль будет вынужден разворачивать производство новых ракет, стоимость каждой копейки, вкладываемой им на стороне, вырастет в разы. Значит, платить за «братскую помощь» станет дороже.

И второе. У России практически не осталось государств-сателлитов, на территории которых она могла бы размещать новые ракетные комплексы. В Центральную Азию и в Монголию не пойдешь: Китай закономерно воспримет эти шаги как угрозу собственной безопасности. На Кавказ тоже: возникнет напряженность с Турцией. Остается территория суверенной Беларуси. И если размещение у нас российской авиабазы действительно не имело смысла, то сейчас, похоже, Москва будет трактовать отказ от нее как уступку, требуя взамен разместить новую базу – теперь уже ракетную.

Пока трудно предполагать, как оно будет на самом деле, но такой вариант явно не следует сбрасывать со счетов.

**Федор КОНСТАНТИНОВ.**

СІТУАЦЫЯ

# Вялікае перасяленне

*Студэнцкую вёску ў Мінску пачалі рыхтаваць да Еўрапейскіх гульняў, а студэнтаў масава адпраўляюць у іншыя інтэрнаты.*

Аднойчы навучэнцам ВНУ, якія жылі ў Студэнцкай вёсцы ля станцыі метро «Пятроўшчына», ужо давялося перажыць аўрал з перасяленнем. У 2014 годзе Мінску пашчасціла праводзіць чэмпіянат свету па хакеі, і студэнцкія інтэрнаты ў вышэйзгаданай вёсцы было вырашана перапрафіляваць у гасцініцы для замежных турыстаў. Студэнтаў пачалі «распіхваць» па іншых інтэрнатах, і ў СМІ тады было дастаткова інфармацыі пра тое, з якімі цяжкасцямі пры гэтым сутыкнуліся многія навучэнцы.

Сёлета, з 21 па 30 чэрвеня, ў беларускай сталіцы пройдуць II Еўрапейскія гульні, і ў чарговы раз Студэнцкую вёску вырашылі аддаць для пражывання замежнікаў.

*«Каля 6 тысяч удзельнікаў плануюць узяць удзел у гэтых Гульнях*, – паведаміў першы намеснік начальніка ўпраўлення спорту і турызму Мінгарвыканкама **Андрэй Пацееў**. – *Гэта спартсмены (каля 4 тысяч), трэнеры, прадстаўнікі каманд, масажысты, журналісты і гэтак далей. Яны будуць жыць у Студэнцкай вёсцы. Там сем інтэрнатаў, толькі трэба правесці там касметычны рамонт, каб прыняць туды спартсменаў і прадстаўнікоў дэлегацый. Два інтэрнаты яшчэ будуць дабудаваны».*



Таксама, наколькі вядома, у адпаведнасці з патрабаваннямі Еўрапейскага алімпійскага камітэта да месца пражывання спартсменаў, Студэнцкую вёску агародзяць, і туды ў мэтах бяспекі гасцей будзе праход толькі па прапусках.

Дарэчы, на падыходзе да карпусоў, дзе ўжо жывуць навучэнцы ВНУ, будуецца яшчэ адзін. У хуткім часе яго ўжо здадуць. Ён будзе больш сучасны, тут заканчваюцца работы па ўнутраным аздабленні. Праца кіпіць.

*«Інтэрнат разлічаны на пражыванне 1800 чалавек, а ўвесь комплекс – на 8740*, – распавядае мне начальнік будаўнічага ўчастка. – *На 1-м і 2-м паверхах будуць памяшканні абслугоўвання: сталовая, зал для сходаў на 96 месцаў, памяшканні для заняткаў, медыцынскі пункт, зала для заняткаў спортам. Трэці паверх – тэхнічны, 4–25-ы паверхі – пакоі для пражывання. Усяго будзе 440 жылых блокаў: аднапакаёвых на траіх – 182, двухпакаёвых на чацвярых – 172, двухпакаёвых на 6 чалавек – 86».*

І пакуль гэты інтэрнат дабудоўваюць, з астатніх ішло масавае высяленне студэнтаў.

*«У нас высяленне да 1 лютага, усе студэнты былі пастаўлены ў вядомасць пра гэта зараней»*, – кораткa кажа камендант інтэрната №8 Мінскага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка і раіць за падрабязнай інфармацыяй звяртацца ў больш высокія інстанцыі.

А вось студэнткам 5-га курса Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта **Ганне Драздовай** і **Ірыне Макоўскай**, якія жывуць у Студэнцкай вёсцы ў інтэрнаце №1, было што сказаць.

*«Чаго нам баяцца? Мы ўжо дзяржаўныя экзамены здалі і дыплом абаранілі*, – тлумачаць яны. – *З-за гэтых Гульняў у нас з'явіліся толькі дадатковыя праблемы. Спаборніцтвы будуць праходзіць усяго дзевяць дзён, а студэнтаў высяляюць за паўгода! На месяц раней дыплом абаранялі і экзамены здавалі, праграму сціснулі. У нармальных умовах дыплом паўгода пішуць. Але ўсё здалі і зараз таксама высяляемся.*

*Спачуваем дзяўчатам з малодшых курсаў, якіх перасялілі ў інтэрнат на вуліцу Слясарную. Там стары будынак калідорнага тыпу. Дзяўчаты дасылалі фотаздымкі, калі ў пакоі было аж па пяць ложкаў: чатыры ля сцен і адзін пасярод пакоя. Як кажуць, не толькі не патанцуеш, але і павярнуцца праблематычна. Увогуле, крыўдна, што ў нас крайнімі заўсёды робяць студэнтаў. Маўляў, гэтыя ўсё вытрымаюць…»*

А вось што паведаміў з гэтай нагоды **Алесь Сівакоў** – бацька першакурсніцы Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта (МДЛУ):

*«Дачка вучыцца ва ўніверсітэце на 1-м курсе, жыве ў інтэрнаце па праспекце Дзяржынскага, 97*, – напісаў ён на сваёй старонцы ў сацыяльных сетках. – *Новыя карпусы, усе выгоды. І тут – татальнае перасяленне ў сувязі з Еўрапейскімі гульнямі ў інтэрнат па вуліцы Слясарнай, 35, бо, бачыце, няма куды сяліць спартсменаў.*

*Нагадаю, Еўрапейскія гульні адбудуцца ў чэрвені, а перасяляцца трэба ўжо зараз. Але куды? Мала таго, што інтэрнат старога тыпу, дык перасяленне адбываецца па прынцыпе ўшчыльнення. У пакой, дзе стаяць 4 ложкі і дзе жывуць чатыры чацвёртакурсніцы, падсяляюць першакурсніцу! Пятай! У пакой, які разлічаны, па сутнасці, на дваіх. Ложак уціскваецца пасярэдзіне. Пра тое, што дзесьці памесціцца стол ці шафа, няма і гаворкі. Пра тое, што ў іх розныя зацікаўленасці, розны рэжым працы і адпачынку, няма і гаворкі.*

*Некаторыя бацькі адразу пачалі шукаць варыянты зняць кватэру, але далёка не ў кожнага ёсць магчымасць плаціць такія грошы дадаткова. Нагадаю, Еўрапейскія гульні працягнуцца тыдзень і адбудуцца толькі ў чэрвені. Але дзяцей паставілі перад выбарам ужо зараз. Дзе ж той хвалёны клопат дзяржавы пра навуку? Дзе рэакцыя дэпутатаў, у тым ліку шаноўных Алены Анісім і Ганны Канапацкай?»*

Паколькі адміністрацыя інтэрнатаў катэгарычна адмаўляецца даваць нейкія каментарыі па рэканструкцыі будынкаў, заяўляючы, што гэта не ў іх кампетэнцыі, мы звярнуліся з пытаннямі да начальніка Галоўнага ўпраўлення выхаваўчай працы і маладзёжнай палітыкі Міністэрства адукацыі **Эдуарда ТАМІЛЬЧЫКА**.

– Са Студэнцкай вёскі перасяляць у іншыя месцы каля 4 тысяч студэнтаў, – кажа Эдуард Валянцінавіч. – Натуральна, будуць пры гэтым пэўныя праблемы, будуць і незадаволеныя, бо людзі патрапяць з шыкоўных пакояў у крыху больш нязручныя ўмовы пражывання.

Але ж Еўрапейскія гульні – гэта агульная вялікая справа. Трэба разумець, што інтэрнаты пасля рэканструкцыі стануць яшчэ больш добраўпарадкаванымі. Яны фактычна прыраўняюцца пасля рамонту да трохзоркавых гатэляў.

**– Што канкрэтна падчас рэканструкцыі будзе зроблена?**

– Першае – ва ўсіх пакоях зробяць вялікі касметычны рамонт. Другое – закупяць новае абсталяванне. У тым ліку і тэхналагічнае. Трэцяе – у пакоях усталююць новую мэблю. Пры гэтым усё будзе сур'ёзнага класа, як ужо казаў, на ўзроўні трохзоркавага гатэля.

Акрамя таго, на тэрыторыі Студэнцкай вёскі будуецца павільён, дзе будуць харчавацца спартсмены. Пасля Гульняў гэты аб'ект будзе выкарыстоўвацца для тых студэнтаў, якія ў вольны час захочуць пазаймацца спортам.

Таму не бачу нічога дрэннага ў рэканструкцыі. Ужо з 1 верасня студэнты будуць жыць у значна лепшых умовах, чым раней.

**– Колькі спатрэбіцца часу, каб цалкам закончыць рэканструкцыю ў Студэнцкай вёсцы?**

– Плануецца завяршыць усе рамонтныя работы да 1 чэрвеня.

**– Хто гэтыя работы фінансуе і якая сума на іх выдаткавана?**

– Калі казаць пра рамонт інтэрнатаў у Студэнцкай вёсцы, то тут фінансаванне ідзе ў асноўным па лініі Міністэрства адукацыі.

А што тычыцца сумы, якая пойдзе на рэканструкцыю, то яна даволі значная. Калі не памыляюся, каля 14 мільёнаў рублёў.

**– Можаце сказаць, у якія інтэрнаты перасялілі студэнтаў са Студэнцкай вёскі?**

– Іх пераселяць і ў інтэрнаты сваіх ВНУ, і ў інтэрнаты іншых арганізацый. Фактычна кожнаму студэнту расписана, дзе ён будзе жыць пасля перасялення.

Дарэчы, у нас жа дэмакратыя, таму некаторыя студэнты пішуць адмовы, калі нехта не хоча некуды пераязджаць, а вырашыў здымаць кватэру ці пераехаць на час да блізкіх. І нават калі чалавек адмовіўся, а затым перадумаў, то ён можа зноў напісаць заяву ў дэканат альбо рэктарат, і яму дадуць месца ў інтэрнаце.

**– У сацыяльных сетках многія студэнты ўжо скардзяцца, што іх пасялілі ў невыносныя умовы. У прыватнасці, размова ідзе пра інтэрнат на вуліцы Слясарнай…**

– Не выключаю, што нейкія спрэчныя пытанні будуць узнікаць. Але ў сацыяльных сетках шмат і няпраўды пішуць. Напрыклад, што, маўляў, дзесьці не дазваляюць палічкі прыбіваць…

Я магу сказаць адно: будуць створаны ўсе ўмовы, каб людзі маглі камфортна вучыцца і пражываць.

**Алесь СІВЫ.**

**P.S.** *Стала вядома, што санстанцыя забараніла, каб у ітэнрнаце на вуліцы Слясарнай студэнты жылі ў пакоях па пяць чалавек. Зараз некаторых навучэнцаў МДЛУ адправілі ў іншыя інтэрнаты, а астатнія будуць знаходзіцца ў Студэнцкай вёсцы, пакуль ім не знойдуць жыллё з прыстойнымі ўмовамі пражывання.*

РЕГИОН

## Первым трем сотням покупателей дарили по бутылке шампанского

Бесплатную бутылку шампанского выдавали тем жителям городского поселка Старобин Солигорского района, кто оказался среди трехсот первых покупателей супермаркета «Радуга». Информация, что самых ранних посетителей открывающегося большого магазина ожидают подарки, сюрпризы, внушительные скидки на ряд товаров, быстро распространилась по поселку и не могла не сработать – многие на торжественное открытие супермаркета стали собираться загодя. Людей пришло много, в том числе и с детьми. Большая часть из них – пенсионеры. Надо отдать должное администрации поселка, его главе Алле Яковлевой – людям постарались скрасить время ожидания. Была организована культурно-развлекательная программа, включавшая выступление самодеятельных артистов, игры для детей. Это сыграло положительную роль – собравшиеся у супермаркета улыбались, шутили.




Наконец красную ленточку у входа в «Радугу» перерезали, народ хлынул в магазин, где вскоре образовались длинные очереди у всех пяти касс. Триста счастливчиков получили свое шампанское, одной женщине достался в подарок торт, многие выходили из супермаркета с надувными шариками с логотипом «Радуга».

**Лариса НАСАНОВИЧ.**

ОБ ЭТОМ – ВПЕРВЫЕ!

# При жизни…

*Памятники на свою будущую могилу в Солигорске заказывают не только те, кто хорошо обеспечен, но и те, кто едва сводит концы с концами.*

«Не хочу никого обременять, и так надежней», – сказала мне одна хорошая знакомая, с которой нас свело когда-то общее дело. Сказала через несколько часов после того, как я испытала шок, увидев в фирме по оказанию ритуальных услуг памятник с ее фотографией, с ее же именем, фамилией, отчеством. Я даже сразу не обратила внимания, что дата смерти на памятнике не указана. В голове сверкнула одна мысль: Светланы больше нет, а я не пришла с ней попрощаться!..

Услышав от кассира, что моя знакомая сама заказала себе памятник уже больше года назад, и с облегчением вспомнив, что не виделись мы всего-то месяц с хвостиком, я в тот же день позвонила ей. Она обрадовалась и пригласила в гости.

За чаем я осторожно поинтересовалась, как она себя чувствует, как здоровье. В ответ прозвучало: слава богу, можно держаться.

В жизни могут случаться разные неприятные вещи, но не надо отчаиваться, даже если попадешь в жесткий переплет, – мямлила я.

– Вот и я всегда так говорю, – согласно закивала она головой.

– А памятник тогда зачем заказала при жизни? – не удержалась я. И рассказала, что была в фирме ритуальных услуг – у родственницы несколько месяцев назад умерла свекровь, и нужно было узнать, во что обойдется приличное надгробие.

– И там мой памятник увидела? – хмыкнула знакомая. – Кстати, понравился? По-моему, неплохой.

Потом она посерьезнела. И объяснила, что сама заказала себе надгробный монумент, потому что не хочет детей обременять после своей смерти. Сначала, конечно, она деньги на памятник собирала…

Я знала, что с мужем она уже давно развелась, а потом он заболел и умер. Ее взрослые сын и дочка живут со своими семьями отдельно. Дочь вообще в другом городе.

– Цены такие на всё!.. Пусть дети хоть внуков поднимут. А то будут потом отнимать у них мне на памятник, – сказала Светлана. Лицо ее погрустнело, через паузу она добавила: – Нелегко в материальном плане сейчас многим молодым. Да и проблем у них своих хватает, только успевай решать.

По ее словам, умирать она еще не намерена. Но все-таки уже ведь скоро десять лет как на пенсии. Давление порой скачет. Таблетками себя поддерживает. К тому же в последние годы о случаях внезапной смерти слышит все чаще. Соседке по коридору ключи на всякий случай от квартиры своей отдала. А памятник, мол, есть не просит. И в фирме, где его сделали, сказали, что могут хранить его хоть двадцать лет, пока не понадобится. Еще она заметила, что памятники при жизни сейчас заказывают нередко.

Для меня это была новость. Я не знала, что это уже стало трендом. Подумалось: наверное, налицо прогресс. Увеличивается количество людей, которые спокойно воспринимают свою грядущую смерть, смиряясь с неизбежным, и свободны от предубеждения типа «чего кликать ее заранее».

Но можно ведь интерпретировать это явление и по-другому: люди заказывают себе кладбищенские монументы часто потому, что не надеются в этом плане на родных и близких. Или по причине того, что детям финансово осилить установку памятника на могиле родителей будет непросто. И тогда это еще одно свидетельство




неблагополучия в обществе и государстве.

За прояснением ситуации я пошла в одно из крупнейших предприятий по оказанию ритуальных услуг и изготовлению памятников в Солигорском регионе – ПУП «Ритуал БВА».

Там мне подтвердили: случаев, когда пожилые люди сами себе заказывают надгробные памятники, немало. Нередко пенсионеры объясняют это тем, что хотят освободить детей от больших трат в этом плане. А кто-то остался на склоне лет один, детей нет. Рассчитывать, что памятник ему или ей поставят дальние родственники, не приходится. Бывает, что человек оформляет себе заказ на памятник, не проронив лишнего слова.

С заместителем директора ПУП «Ритуал БВА» Надеждой Бутурлиной мы разговариваем в ее кабинете.

– *Чаще заказывают себе памятники женщины, нежели мужчины*, – сообщила она. И добавила, что приходят заказывать себе надгробные монументы также люди хорошо обеспеченные, у которых и дети устроены в жизни. И отношения у них с детьми в норме. – *Такие люди заказывают себе памятники дорогие, с дизайном и формой, выделяющими их на общем фоне. Престижные, что называется. Хотят, чтобы памятники соответствовали именно их ожиданиям и вкусам.*

Моя собеседница призналась, что иной раз она пытается уговорить клиента повременить с заказом надгробия для его будущей могилы. Когда человек с виду еще полон жизненных сил, говорит, что на здоровье не жалуется. Зачем же забивать голову такими вещами? Но, по словам Надежды Бутурлиной, как правило, если уж человек решил заказать памятник, то от этой идеи он не отказывается. Она добавила: готовые монументы могут храниться на предприятии долго, люди это знают, их устраивает.

Другая категория клиентов выбирает, как говорят, бюджетный вариант. Но для них важно, чтобы памятник на будущей могиле был не хуже, чем у большинства.

Бывало, что предприятие шло навстречу пенсионерам. Человек заказал памятник, а вовремя расплатиться денег не хватило – давали отсрочку.

Я спросила, когда появились первые клиенты, которые начали заказывать монументы для себя.

– *Лет десять назад.*

Поинтересовалась я ценой памятников и ценой полной «экипировки» могилы. Оказалось, самый дешевый памятник – 50 рублей. И не сказать, чтобы он спросом не пользовался. А такой, который наиболее часто заказывают, стоит 325 рублей. Есть, конечно, и дороже. Средний по стоимости памятник плюс цветник, оградка, установка всего на месте обойдется клиенту примерно в 1000 рублей или даже несколько меньше.

Вроде и небольшие деньги. Для категории обеспеченных. Но, похоже, есть немало пожилых людей с очень скромным доходом, которые думают или просто знают, что найти такую сумму на обустройство их последнего земного пристанища детям, близким людям будет тяжело. А потому эта часть пожилых людей старается здесь выкрутиться самостоятельно. При этом нередко жестко экономят на всем. И надеются, что потом их детям не придется стыдиться родительской могилы, когда придут навестить ее. Ведь памятники на кладбище нужны прежде всего живым.

**Лариса НАСАНОВИЧ.**
*г.Солигорск.*

ТВОРЧАЯ АСОБА

# ЛЯСНЫ ПАЭТ

Як нямногія, адчувае Казімір Камейша сваю повязь з малой радзімай. «*Я самы лясны паэт у нашай літаратуры,* – упэўнены ён. – *І не таму, што адтуль, з лесу, і мая калыска, і хата, – а ўсе мае думкі, нават беды і радасці. Малыя Навікі – на пачатку самой Налібоцкай пушчы. А Нёман для мяне бацька, а маці – яго прыток Сула*». Але, нагадвае паэт, наступленне цывілізацыі далёка не лепшым чынам уплывае на прыроду: «*Была і яшчэ адна, самая блізкая да мяне і маёй хаты рэчка, чамусьці з той гістарычна страшнай назвай – Лубянка. Яе даўно няма, яна – ахвяра мацэпураўскага плуга. Выпрамілі і асушылі. Выкапкам у маім дзяцінстве працаваў спраўна*».



Ды хоць прыкрае і не забываецца, памятаецца Казіміру Камейшу і добрае. Тое, што змяшчаецца ў двух такіх дарагіх словах – Малыя Навікі. Гэта вёска, у якой ён нарадзіўся на самым пачатку зімы, 3 снежня 1943 года. Вёска была невялікая, толькі 22 хаты. Хоць і вёскай называцца стала пазней. Раней быў звычайны засценак. Адносіўся ён да Івянецкага раёна. Цяпер гэта Стаўбцоўскі, ці, па-мясцоваму кажучы, Стаўпецкі раён.

Маленства будучага паэта прайшло сярод маляўнічых мясцін. Там не толькі шуміць спаконвечная Налібоцкая пушча, а і радуе вока ўжо соцень пакаленняў возера Кромень. Дзе, як дзеліцца сваёй радасцю К.Камейша, «*не толькі птушкі, а самі назвы вёсак спяваюць. Прыслухайцеся: Запольцы, Ніўнае, Беламошша, Брынічава, Церабейнае, Кляцішча. Нават у пераліку чуваць салаўіны пошчак*».

Праўда, спачатку ён і не ў Малых Навіках жыў. Амаль да пачатку вучобы ў школе выхоўваўся на хутары Астравы дзеда па маці – Казіміра Радзівона. Па яго імені і сына назвалі Казімірам. Дарэчы, пра сваё маленства Казімір Вікенцьевіч хораша расказаў у аповесці «Астравы на сушы». Яна друкавалася ў 12-м нумары часопіса «Полымя» за 2015 год.

Дзед стаў першым старшынёй мясцовага калгаса. Аднак спачатку, зразумела, гэты калгас яшчэ трэба было стварыць, што аднаму не па сіле. У Астравы рэгулярна завітвала раённае начальства. Да яго далучаліся мясцовыя актывісты і разам з Казіміравым дзедам хадзілі па навакольных хутарах. «Склікалі» пушчанцаў на сходы. Слова «склікалі» я невыпадкова ўзяў у двухкоссе. Ахвочых жыць калектыўна знаходзілася не так і шмат. Таму ўсё рабілася прымусова. Тым, хто спрабаваў супраціўляцца, нагадвалі, што пры адмове можна трапіць далёка ад родных мясцін.

Познімі вечарамі «будаўнікі новага жыцця» вярталіся ў Астравы. Іх ужо з нецярпеннем чакаў Казік. Не таму, канешне, што яго цікавіла, як у іх ідуць справы. Па іншай прычыне. «Агітатары» за чаркай «абмывалі» свае поспехі. Зброю заўсёды трымалі пры сабе, бо ў навакольных лясах яшчэ гаспадарылі «лясныя браты». Аднак кожны чарговы перакулены ў рот кілішак самагонкі прытупляў іхнюю пільнасць. А хлапчук з нецярпеннем чакаў, калі яны ўсё больш захмялеюць. Пасля гэтага дазвалялі яму пагуляць са сваімі блішчастымі цяжкаватымі наганамі. Гэта і было Казіку ў вялікую радасць.

За ўсім, што адбывалася, пільна назіраў сам таварыш Сталін. У цемнаватай зале насупраць абразоў Радзівон пачапіў яго партрэт. Адзін з гасцей неяк на добрым падпітку захацеў даведацца, наколькі палітычна падкаваны хлапчук. Падвёў яго да партрэта і пачаў дапытвацца, хто гэта на ім такі.

Казік сапраўды быў добра падкаваны. Толькі не ў тым накірунку, як гэтага хацелася раённаму начальству. Паглядзеў ён на Сталіна, потым здзіўлена на госця. У яго позірку прачытвалася недаўменне. Маўляў, які ты начальнік, калі такога чалавека не ведаеш? А пасля і ляпнуў:

– Ды грузін гэта, маць яго!

У хаце пачаўся перапалох, што ў Казіка выклікала яшчэ большае здзіўленне. Ён жа сказаў так, як вучыў яго гаварыць у падобных выпадках ягоны старэйшы дзядзька. Вялікім жартаўніком ён аказаўся. А Радзівону не да жартаў. Давялося апраўдвацца за тое, што недагледзеў за ўнукам. Запэўніў абуранага начальніка, што зоймецца перавыхаваннем Казіка.

Не толькі гэта запомнілася з таго часу, як арганізоўваліся ў родных мясцінах калгасы. Кемны быў, з маленства добрую памяць меў. Таму шмат што і запомніў. Прынамсі, думалі-разважалі, як назваць гаспадарку, якую нядаўна стварылі. Нарэшце нехта з начальства заўважыў:

– А што тут доўга думаць! Старшыню калгаса Казімір завуць, то і назавём калгас «За мір».

Так і з'явіўся ў Астравах калгас «За мір». Відаць, не без гумару быў гэты начальнік. А той гаспадарцы, што была створана ў Малых Навіках, далі імя Панамарэнкі. Тут ужо калгаснікам хутка не да смеху стала – не ладзіліся справы. Хтосьці і прыдумаў:

*Калгас Панамарэнкі –*
*Пакуты і мэнкі.*

Мэнкі – гэта па-польску, а па-беларуску – пакуты, мучэнне. Бацька Казіка Вікенцій Антонавіч, бадай, душой адчуваў, што так і будзе. Доўга не паддаваўся на ўгаворы, уступіў у калгас апошнім. Калектыўнае жыццё не вабіла яго і таму яшчэ, што пазбавіўся свайго лесу. Атрымаў яго ў пасаг, калі ажаніўся. Сёй-той гэты лес і па-сённяшні дзень называе Вінцуковым. «*Упарты быў, пушчанец!* – усміхаецца Казімір Вікенцьевіч. – *Шкада мне было потым нашага партызанскага каня, якога забралі ў калгас… Начамі ён яшчэ доўга вяртаўся ў свой двор. Чужым адчуваў сябе ў калгаснай канюшні*».

Самому ж К.Камейшу, калі прыйшоў час у школу ісці, надта не хацелася пакідаць Астравы: «*урос у дзедаву сям'ю, як той маленькі жывучы карэньчык, які ўжо і вырваць шкада*». Паўдня бацька ўгаворваў, а ён у лес уцякае: «*Нарэшце сілаю ўсадзілі – і па кані. Воз аж падскоквае, імчыцца па каляіністай ды карэністай дарозе да гасцінца, а я плачу ды такімі жаласлівымі слязьмі, ажно ва ўсёй дзедавай сям'і слёзы наварочваюцца*».

Вучыўся ў дзесяцігодцы ў вёсцы Дзераўная. Пехам хадзіў: туды 10 кіламетраў і столькі ж назад. Скрозь пушчу. Успамінае: «*Крыху страшнавата было, ваўкоў баяўся. Бандытамі не палохалі ўжо. Аднак там, дзе нядаўна лавілі нават шпіёнаў, залятаць нейкія паветраныя шары, скідвалі ўлёткі. Вяртаўся са школы і падбіраў іх. Разглядаў і смяяўся з карыкатур на нашых правадыроў. На адной быў намаляваны Хрушчоў з дужа смешным тварам і ключом у руцэ. Закручваў, значыць, гайкі! Лістоўкі здавалі настаўнікам, а тыя перадавалі ў сельсавет*».

Чытаннем захапіўся з ранніх гадоў. Матчына малодшая сястра Ванда скончыла Магілёўскае культасветвучылішча. У Астравах бібліятэкарам працавала. Прачытаў ці не ўсе кнігі. У Дзераўной таксама быў адным з самых актыўных чытачоў. Зусім невыпадковае ягонае прызнанне ў аўтабіяграфіі: «*Што змусіла мяне пісаць вершы? Не буду адмаўляць, што віною ўсяму былі кнігі, якіх начытаўся ў дзяцінстве. І ўсё ж, здаецца, за пяро падказала ўзяцца само дзяцінства*».

Аднак гэта, бадай, і ад маці пайшло. Ядвіга Казіміраўна і сама складала вершы. Праўда, пра гэта ён доўга і не ведаў. Даведаўся, можна сказаць, выпадкова. Калі, неяк едучы на радзіму Генрыха Далідовіча, завітаў з ім і ў свае Малыя Навікі. Ядвіга Казіміраўна прачытала Генрыху Вацлававічу вершаванае пасланне.

Не менш важна і тое, што для свайго старэйшага сына яна змалку была свайго роду жывым слоўнікам. Запісваў ад яе прымаўкі, прыпеўкі, адметныя словы… Асабліва такія, якія мала дзе напаткаеш. Для прыкладу: дзьмухаўцы. На радзіме К.Камейшы гэта – імшалкі. Адкуль такая дзіўная назва ўзялася? Усё проста. Пра яе паходжанне з маленства ведае са слоў маці: «*У касцёле пачынаецца імша – яны зацвітаюць. А канчаецца імша – на іх адразу белы пух з'яўляецца*».

Першыя вершы надрукаваў у 1959 годзе ў стаўбцоўскай раённай газеце, дзе тады працаваў. Тады яна называлася «Голас селяніна». Давялося працаваць і ў капыльскай раёнцы «Слава працы», на Рэспубліканскім радыё, у часопісах «Вясёлка», «Полымя», «Маладосць», «Вожык». Першай кнігай стала «Восеньскія позвы», якая прыхільна была сустрэта крытыкай. Хоць не сказаць, каб лёгка прабівала сабе дарогу.

Як гэта адбывалася, Казімір Вікенцьевіч таксама расказаў у аўтабіяграфіі: »*Яна ўжо была адрэдагавана Хведарам Жычкам, але тут у выдавецтве адбылася нарада, на якой размова ішла пра якасць кніг. Звярталася асаблівая ўвага на паэтычныя зборнікі. Пасля гэтага многія падрыхтаваныя кнігі пачалі чытаць па-новаму. Мой зборнік на новае прачытанне трапіў у рукі Сяргея Грахоўскага, з якім мы потым нават пасябруем. А тады ён маю кнігу, як кажуць часам літаратары, проста «зарэзаў». І хто ведае, як бы павярнуўся мой паэтычны лёс, калі б той «прысуд» быў выкананы*».

Выйсце падказаў Хведар Жычка. «Ідзі да «адмірала», – параіў ён. – Толькі ён можа цябе выратаваць». «Адміралам» маладыя паэты называлі Анатоля Вялюгіна. Сам К.Камейша з лёгкай рукі Анатоля Сцяпанавіча стаў Карнетам. А.Вялюгін ахвотна падтрымліваў тых, у кім бачыў задаткі таленту. З ім быў ужо знаёмы і К.Камейша. А.Вялюгіну адразу і патэлефанаваў. У адказ пачулася: «Прыязджай да мяне». Пры з'яўленні аўтара «Восеньскіх позваў» сказаў яму: «Кнігу я глядзець не буду, бо тваю паэзію ведаю. […] Падтрымаем». Адбылося тое, што і павінна было адбыцца. Аўтарытэт Анатоля Сцяпанавіча зрабіў сваю справу. Наступным днём рукапіс быў падпісаны ў друк.

Занятасць на асноўнай рабоце ніколі не перашкаджала Казіміру Камейшу і самому плённа працаваць творча. Адна за адной выходзілі кнігі паэзіі: «Мембрана» (1972), «Нектар» (1974), «Тут мае вёсны прычалены» (1977), «Сябрына» (1978), «Плёс» (1982), «Галоўная вярста» (1985), «Кубак блакіту» (1993), «Пярэймы дня» (1988), «Гордзіеў вузел» (2016) і іншыя. Не менш плённа пісалася для дзяцей: «Буслянка» (1985), «Дзятлава кузня» (1987), «Добры дзень, шафёр» (1988), «Гарцунок» (1991)… Паспяхова выступаў і ў прозе. З'яўляецца лаўрэатам Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова і прэміі «Залаты Купідон». Летась за кнігу паэзіі «Высокі бераг» атрымаў Нацыянальную літаратурную прэмію.

«Лясны паэт», ён і сёння не ўяўляе сабе жыцця без Малых Навікоў. Прызнаецца: «*Жыву, можна сказаць, двухкрыла. Адным крылом зачэплены за горад, другім – за вёску. З гадамі вузел маёй повязі з роднымі мясцінамі зацягваецца ўсё мацней. Жыву ў роднай бацькоўскай хаце. У горад прыязджаю толькі зімаваць, бо старая хата, якімі дровамі ні палі яе печы, грэе цяплом мала. А нешта перарабляць не хачу. Хай будзе ўсё так, як збудаваў бацька*».

У вёсцы цяпер жыве сярод шасці самых старых і апошніх яе жыхароў. Астатніх называюць дачнікамі. Са здзіўленнем разважае: «*Але я, як і яны, не разумею, чаму плачу за газ і святло па расцэнках завышаных*». Толькі гэта, канешне, не адштурхоўвае ад бацькоўскага кута: «*Землякі кажуць, што з гадамі ўсё больш і больш раблюся падобным на бацьку і тварам, і паходкаю, «ну рыхтык Вінцук». А гэта мяне і радуе. Я – той яблык, які хоць часам і далёка падае, але коціцца да свайго ствала. Пушчанцы ў пушчы любяць і шануюць усё пушчанскае. Гэтак і я*».

З гадамі повязь з Малымі Навікамі ў яго не слабее, а становіцца ўсё больш трывалай: «*Ёсць у мяне самыя любімыя дрэвы. Гэта дуб, бяроза і клён, у нас яго завуць жаночым імем – кляніна. Кляніна першай кліча мяне дахаты, калі толькі крыху прыгрэе веснавое сонца. Тады я саджуся ў машыну, якая зімой, як і я, адпачывае, і спяшаюся на салодкі кляновік. Потым пачынае радаваць і бярозавік. Потым з'яўляюцца грыбы. Некалі ў маладыя гады напісаў верш «Суседава бяроза». Калі сусед вырашыў спілаваць сваю прыгажуню. Мы з ім нават пасварыліся тады. Канцоўка была такая:*

*Сядзіць паміж намі якісьці там пень,*
*А хай бы расла паміж намі бяроза!*

*Ужо суседавы дзеці спілавалі і магутны дуб, які рос у іх дворышчы, а ў маім акне выглядаў незвычайным зялёным букетам*».

Працягвае сваю няпростую споведзь: «*Люблю, вартую ды ратую сваю пушчу. І баліць мне за яе. Бачу, як бяздумна піляць і нішчаць яе новымі сучаснымі піламі, і часам хочацца плакаць. Ідуць і ідуць лесавозы аж з самага першага майго ўспаміну пра пушчу. Вязуць і вязуць родны лес. Лесавозы сёння не тыя, што былі некалі. У кожнага і свой кран, сам і загружае. Пілуюць шмат маладога дрэва. А паэтаў, якім усё гэта баліць, ніхто не слухае. А ёсць яшчэ так званыя браканьеры. Ёсць і яшчэ адна катэгорыя пушчанскіх нормапарушэнцаў, я называю іх заязджалы*».

…У Казіміра Камейшы багатая асабістая бібліятэка. Кніг у ёй так шмат, што не месцяцца ў ягонай аднапакаёўцы. Таму частку перавёз на лецішча. Нямала іх трапіла і ў Навікі. Самыя дарагія ва ўласным кнігазборы тыя, што пазначаны аўтографамі пісьменнікаў. Асабліва Казіміра Вікенцьевіча ўсцешваюць з дарчымі надпісамі тых, з кім сябруе ці сябраваў. Сярод іх і томік Рыгора Барадуліна «Аратай, які пасвіць аблокі», што выйшаў у выдавецтве «Мастацкая літаратура» ў 1995 годзе. Акурат да 60-годдзя народнага паэта Беларусі. Але гэта – не кніга ягонай паэзіі, а, як пазначыў у падзагалоўку сам Рыгор Іванавіч, «сяброўскае слова, эсэ і неканaнізаваныя ўспаміны».

Ураджэнцу хутара Верасоўка, што на Ушаччыне, было што сказаць таму, хто пайшоў у вялікі свет жыцця і літаратуры са стаўпецкіх Малых Навікоў. Гэта відаць ужо з аўтографа:

*«Родны душы маёй, дарагі сэрцу майму Казімір Вікенцьевіч! Прымі на добры ўспамін!*

*Рыгор Барадулін.*

*20 лютага, 96*
*Менск*
*P.S. Гл. стар. 105–108!»*

Ці не галоўнае тое, што «хаваецца» на старонках 105–108. Гэта артыкул «Верасова кніга» пра творчасць Казіміра Камейшы і пра яго самога. Напісаны так, як і ўмеў пісаць Рыгор Барадулін, – эмацыянальна ўсхвалявана, вобразна насычана, па-філасофску заглыблена, па-жыццёваму мудра: «*…увесь час лавіў сябе на жаданні цытаваць і цытаваць Казіміра Камейшу. Дужа ж ашчадны і віртуозны, вытанчаны і, калі трэба, хуліганісты паэт. Годны паэт. Калі і хацеў дагадзіць, дык толькі паэзіі*».

Майстра прамовіў пра Майстра. Гэта ў пэўнай ступені і тое, як ярка і адметна Аркадзь Куляшоў, таксама народны паэт, перадаў па-беларуску знакамітае лермантаўскае «Звезда с звездою говорит…»: «Зорка зорцы голас падае». Паэтычныя зоркі Р.Барадуліна і К.Камейшы памкнуліся насустрач адна адной. Свой голас падалі. Ад гэтага на нацыянальным паэтычным небасхіле стала яшчэ святлей, цяплей і ўтульней.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**

ЧУЛІ?

## Лявон Вольскі выдаў кліп «Русская песня»

*Лявон Вольскі прадставіў у Сеціве трэці сінгл з новага альбома «Гравітацыя», канцэртная прэзентацыя якога адбудзецца 2 сакавіка ў Prime Hall. Упершыню з пачатку 1980-х музыкант заспяваў на рускай мове.*



– Песню я напісаў у 2013 годзе, яшчэ да пачатку падзей ва Украіне. На жаль, вялікая частка нашай краіны жыве ў чужой медыяпрасторы, цікавячыся больш зорнымі раманамі Пугачовай і Кіркорава, чым падзеямі ў Беларусі, – так было раней, так застаецца і зараз. Асабліва моцна на масы ўплывае тэлебачанне – пра гэта кліп, які зняў рэжысёр Аляксандр Міцкевіч. Я ўжо гадоў 10–15 не гляджу ніякія каналы і вельмі гэтаму рады, – распавёў Лявон Вольскі.

Новы альбом «Гравітацыя» завяршае трылогію, распачатую дыскамі «Грамадазнаўства» (2014) і «Псіхасаматыка» (2016). Як і папярэднікі, ён быў запісаны ў Вільнюсе з нарвежскім саўндпрадзюсарам Снорэ Бергерудам.

Канцэртная прэзентацыя альбома «Гравітацыя» адбудзецца 2 сакавіка ў Prime Hall. Квіткі каштуюць ад 40 рублёў.

**Аліна ВЕТРАВА.**

ДИКОСТЬ!

## В Чечерске мужчина отрубил бывшей жене кисть

«По предварительной информации, 44-летний мужчина был нетрезв. Во время ссоры с женой 1 февраля он ударил женщину топором в область правой руки. Причем мужчина самостоятельно оказал первую помощь супруге, а за квалифицированной медицинской помощью обратился только утром 3 февраля», – сообщает представитель Следственного комитета по Гомельской области.

Женщина в больнице, ее муж – в СИЗО.

**Алина ВЕТРОВА.**

РЭГІЁН

## У Гродне распачаўся Тыдзень французскай кнігі

*Урачыстае адкрыццё адбылося ў галоўным корпусе Гродзенскай абласной бібліятэкі імя Яўхіма Карскага.*

У адкрыцці Тыдня французскай кнігі ўзяў удзел першы дарадца Пасольства Францыі ў Рэспубліцы Беларусь Аляксандр Піке і французская пісьменніца Ганна Лазоўскі.

Спадар Піке з задавальненнем адзначыў, што выканаў сваё абяцанне, адкрывае тыдзень французскай кнігі ў Гродне і ўпэўнены, што гэта мерапрыемства паспрыяе ўмацаванню беларуска-французскіх сувязяў у сферы культуры.

Амаль поўная зала падчас адкрыцця тыдня французскай кнігі ў Гродне была запоўнена гродзенскімі школьнікамі, якія вывучаюць французскую мову. На працягу амаль цэлай гадзіны яны задавалі пытанні пісьменніцы Ганне Лазоўскі аб яе творчасці. Гутарка цалкам вялася на французскай мове.

На працягу тыдня ў розных бібліятэках Гродна будуць ладзіцца мерапрыемствы з адкрытай выставай французскай літаратуры, творчыя сустрэчы, прагляды і абмеркаванні французскіх фільмаў.

У Гродзенскай абласной бібліятэцы самая ранняя кніга на французскай мове – «Музычны слоўнік» Жан-Жака Русо, выдадзены ў 1768 годзе.

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**

ШОУ-БІЗНЕС

## У крамах з'явіцца «J:морс»

*Гурт «J:МОРС» выпускае ўласны морсавы напой – ужо на наступным тыдні яго можна будзе набыць па ўсёй краіне. Пакаштаваць навінку можна будзе 14 лютага на канцэрце калектыву ў сталічным Prime Hall.*

Морсавы напой «J:морс» – супольны прадукт гурта і Мінскага завода безалкагольных напояў.

Першая партыя новага прадукту ўжо выраблена і знаходзіцца на стадыі сертыфікацыі. Да сярэдзіны лютага пляшкі з «J:морс» двух смакаў (журавіны і чорная парэчка) павінны з'явіцца на паліцах крам па ўсёй краіне.






– *На Захадзе выпуск брэндзіраваных напояў – папулярная практыка. Па такой схеме працуюць Metallica, Kiss і шматлікія іншыя артысты. Мы вырашылі, што Беларусь нічым не горшая. Напой «J:морс» мы распрацоўвалі каля шасці месяцаў з музыкантамі гурта, перабралі 15 варыянтаў смаку. Гэта цалкам натуральны прадукт,* – адзначае Юрый **Ракавец,** дырэктар па маркетынгу Мінскага завода безалкагольных напояў.

– *Нам перыядычна прапаноўвалі выпусціць морс «J:морс» і раней, але толькі зараз мы пабачылі сур'ёзны падыход да справы. Напой атрымаўся вельмі смачны – спадабаўся мне і ўсім, каму даваў пакаштаваць,* – адзначыў лідар гурта **Уладзімір Пугач**.

14 лютага ў Prime Hall гурт «J:МОРС» прэзентуе новую праграму «Крылы». Квіткі каштуюць ад 43 рублёў.

**Вера ВІР.**

СІТУАЦЫЯ

# Дзмітрый КАСПЯРОВІЧ: «Выкладаю спартсменам, якія займаюцца скачкамі ў ваду»

*Вядомы беларускі гімнаст распавёў, чым закончылася яго барацьба за спартыўную залу.*



Нагадаем, што чэмпіён свету па спартыўнай гімнастыцы Дзмітрый Каспяровіч трэніраваў дзяцей у зале Цэнтральнага дома афіцэраў. Да нядаўняга часу гэтая зала, акрамя ўсяго іншага, была базай і для клуба Каспяровіча, у якім займаліся дзеці.

Аднак напрыканцы мінулага года па рашэнні Міністэрства абароны ў памяшканні пачаўся рамонт. Затым тут будзе зала для гульнявых відаў спорту.

Плануецца, што займацца там будуць вайскоўцы мінскага гарнізона, сувораўцы і прадстаўнікі дзіцяча-юнацкай школы па гандболе. А вось месца для выхаванцаў чэмпіёна свету, відаць, у зале ўжо не знойдзецца.

Як раней паведаміў прэсе першы намеснік старшыні Спартыўнага камітэта Узброеных сіл Беларусі **Кірыл Чупрыс**, Дзмітрый Каспяровіч арандаваў залу каля дзвюх гадзін у дзень: «*Памяшканне стаяла пустым, і мы неслі сур'ёзныя страты. Мы не маем права траціць дзяржаўныя грошы на камерцыйную структуру, хаця гэта і прыносіць карысць і здароўе дзецям*».

Да апошняга славуты спартсмен спадзяваўся на станоўчае вырашэнне пытання з залай, але воз, як аказалася, з месца не зрушыўся.

– У Доме афіцэраў ідзе рамонт і пераабсталяванне залы, але я туды ўжо зусім не наведваюся, – кажа Дзмітрый. – Няма чаго там рабіць, апошні раз быў перад Новым годам.

**– Вы вялі перамовы з прадстаўнікамі Міністэрства спорту і Міністэрства абароны. Вам не пайшлі насустрач?**

– Невялікі кампраміс усё-такі дасягнуты. Мне пагадзіліся дапамагчы Міністэрства спорту і Мінгарвыканкам, якія прапанавалі замест гімнастычнай залы ў Доме афіцэраў знайсці ў горадзе іншае памяшканне і стварыць там гімнастычную школу. І, натуральна, працаваць у гэтай школе трэнерам. Зараз, як кажуць, працэс у гэтым накірунку ідзе.

**– Пакуль дакладна не вядома, калі дадуць такое памяшканне?**

– Мяркую, гэта будзе бліжэй да Еўрапейскіх гульняў, якія закончацца 30 чэрвеня. Мне таксама паабяцалі, што камплект гімнастычных снарадаў, які вызваліцца пасля Гульняў, таксама перададуць у новую школу. Ва ўсялякім выпадку Мінспорту будзе пра гэта хадайнічаць.

**– Такі варыянт вас задавальняе?**

– Безумоўна. І пры іншых раскладах наўрад ці хто наогул пайшоў бы насустрач. Калі хочаш стварыць прыватны спартыўны клуб, то шукай магчымасці аплачваць і арэнду, і снарады.

Таму, калі ў чалавека ёсць фінансавыя магчымасці, каб арганізаваць свой бізнес, то гэта адна справа. І зусім іншая, калі грошай на гэта няма.

А спонсары на такую справу таксама не вельмі ахвотна адгукаюцца. Усё-такі, калі яны інвестуюць грошы, то хацелі б з гэтага нешта атрымаць. А што можа даць бізнесменам дзіцячы спартыўны клуб? Тут асабліва не заробіш. Не будзеш жа на заняткі для дзяцей фантастычныя кошты ўстанаўліваць.

**– Дзмітрый, чым вы зараз займаецеся?**

– Працую ў сваім клубе і акрамя гэтага знайшоў падпрацоўку – выкладаю акрабатыку для спартсменаў, якія займаюцца скачкамі ў ваду. Ім неабходна такая падрыхтоўка, і я рады, што магу перадаць свае веды і свой вопыт.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

Фота onliner.by

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

# «Зараз 140 тысяч рублёў клубу ўжо не хопіць»

*Юрый БЛІНОЎ – адзін з заснавальнікаў футбольнага клуба НФК, які раней называўся «Крумкачы», – распавёў «Народнай Волі» пра падрыхтоўку каманды да сезона.*




Днямі стала вядома, што НФК дапушчаны Федэрацыяй футбола да працэсу ліцэнзавання для ўдзелу ў першай лізе.

Нагадаем, што год таму з-за фінансавых складанасцяў «Крумкачы» не змаглі прайсці ліцэнзаванне і ім давялося з вышэйшай лігі адправіцца ў другую. Пры гэтым была зарэгістравана новая юрыдычная асоба – НФК «Крумкачы».

У другой лізе каманда заняла другое месца і такім чынам заваявала пуцёўку ў першую лігу. Але пры гэтым узніклі складанасці. Федэрацыя футбола адмовілася рэгістраваць клуб з назвай «Крумкачы» на той падставе, што, маўляў, сярод сябраў асацыяцыі ужо ёсць футбольны клуб з такім імем. І клуб у выніку змяніў назву.

«*Мы прынялі рашэнне спыніцца на назве «Футбольны клуб НФК»*, – паведаміў клуб сваім балельшчыкам. – *Абрэвіятура «НФК» расшыфроўваецца як «Незвычайна фантастычная каманда». Разлічваем на вашу падтрымку. Разам зможам перамагчы!*»

– Тое, што нас дапусцілі да працэсу ліцэнзавання, яшчэ не азначае, што мы ўжо атрымалі дазвол удзельнічаць у першай лізе, – кажа **Юрый БЛІНОЎ**. – Каб атрымаць афіцыйную ліцэнзію, неабходна яшчэ зрабіць шмат сур'ёзнай працы.

У першую чаргу трэба думаць, як сфарміраваць бюджэт на сезон. Неабходна вырашаць шматлікія арганізацыйныя моманты, якія тычацца, у прыватнасці, нашай дзіцяча-юнацкай футбольнай школы. Трэба, каб там было ўсё ў парадку.

**– Які будзе бюджэт у новым сезоне?**

– Дакладную суму назваць пакуль не магу, але ён будзе ў некалькі разоў большы, чым падчас выступлення ў другой лізе. У мінулым годзе нам спатрэбілася прыкладна 140–150 тысяч рублёў (каля 70 тысяч долараў) на сезон. Але другая ліга – аматарская, а зараз мы, як кажуць, становімся на прафесійныя рэйкі. Адпаведна ўзрастуць і выдаткі.

**– Можа быць, нейкія бізнесмены гатовы інвеставаць грошы ў ваш клуб?**

– На сённяшні момант нас падтрымліваюць два асноўныя партнёры – Нацыянальны аэрапорт і адна з вядучых IT-кампаній Беларусі «АСБІС», якая ўваходзіць у міжнародны холдынг. Дарэчы, менавіта дзякуючы гэтай кампаніі мы захаваліся як каманда ў мінулым годзе.

Акрамя таго, зараз вядзецца работа, каб прыцягнуць да супрацоўніцтва яшчэ аднаго досыць буйнога спонсара, пакуль ідзе працэс перамоў.

**– Калі каманда выступала ў аматарскай другой лізе, многія гулялі, што называецца, за ідэю, і вялікіх грошай футбалісты не бачылі. Зараз сітуацыя зменіцца?**

– Безумоўна, бо першая ліга – гэта ўжо прафесійны ўзровень. З кожным футбалістам будзе заключаны кантракт, у якім прапішам заробкі. Пры гэтым падыход будзе да кожнага індывідуальны.

**– Запазычанасцяў за мінулы сезон перад ігракамі няма?**

– Разлічыліся абсалютна з усімі. Дарэчы, калі б у гэтым плане былі праблемы, то нас не дапусцілі б да працэсу ліцэнзавання.

**Алесь СІВЫ.**

КОМПЕТЕНТНО

# Виктор ШЕРШУКОВ: «Если бы Олимпиада была сегодня, у нас были бы три медали»

*Главный тренер мужской сборной Беларуси по тяжелой атлетике рассказал «Народной Воле» о нелегком предолимпийском выборе.*

Многие сегодня гадают: состоится ли на Играх 2020 года в Токио триумфальное возвращение на пьедестал белорусского штангиста Андрея Арямнова, который на Олимпиаде-2008 в Пекине стал олимпийским чемпионом и установил сразу три (!) мировых рекорда?

На какое-то время Андрей вообще, как говорят, выпал из обоймы и на соревнованиях даже не выступал, но в последнее время его результаты радуют.

В декабре прошлого года **Арямнов** занял первое место в весовой категории до 105 кг на Открытом кубке Катара в Дохе. Турнир, кстати, является лицензионным к Олимпиаде-2020.

– У Андрея Арямнова есть прекрасные шансы отправиться на Олимпиаду, – говорит Виктор Евгеньевич. – Он сейчас во всемирном рейтинге находится где-то на третьем месте.

В настоящее время Андрей готовится к чемпионату Европы, который пройдет в апреле этого года в Грузии, и задача на этот турнир – тоже быть в призерах. Так что перспективы у Арямнова вырисовываются серьезные.

**– Но попасть в сборную для поездки на Олимпиаду сложно, не так ли?**

– Естественно, потому что по решению Международной федерации тяжелой атлетики на Олимпиаде в Токио квоты стран с большим количеством антидопинговых нарушений (в том числе и Беларуси) будут снижены всего до двух спортсменов. Очень сложный выбор для тренерского штаба. Если бы были четыре квоты, то и вопросов не было бы.

Кстати, Арямнов – один из немногих тяжелоатлетов, который после перепроверки допинговых проб, взятых еще в 2008 году, оказался «чистым».

**– Вы довольны его сегодняшней формой?**

– Доволен, но на единственную квоту в мужской сборной претендуют сразу три спортсмена – Андрей Арямнов, Вадим Лихорад и Евгений Тихонцов. И если бы сегодня была Олимпиада, то все трое в своих весовых категориях были бы с медалями. И как здесь сделать выбор?!

**Сергей НИКАНОРОВ.**

ШАХМАТЫ

## Твор чытача



Наступную задачу *(гл. дыяграму)* склаў для нашай газеты мінчанін **Міхаіл Піліпавіч Крупнік.**

**Белыя:** Крd1, Фh1, Сe8, Кb1, Кb3 (5).

**Чорныя:** Крb2, Лa2 (2).

**Мат у 2 хады.**

Дасылайце рашэнні на адрас рэдакцыі *(220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а)* або на электронны адрас: *vadim_ne67@mail.ru.*

## На паперы і на дошцы

Як мы раней паведамлялі, у верасні-кастрычніку мінулага года ў грузінскім горадзе Батумі адбылася 43-я сусветная шахматная Алімпіяда. У мужчынскім турніры змагаліся 184 каманды. У выніку па 18 балаў набралі тры зборныя: 1.Кітай; 2.ЗША; 3.Расія (прызавыя месцы размяркоўваліся па дадатковых паказчыках). У дзясятцы лепшых таксама Польшча, Англія, Індыя, В'етнам, Арменія, Францыя і Украіна.

Перад пачаткам Алімпіяды на беларускую каманду (капітан Уладзімір Тукмакоў, трэнер-аналітык Андрэй Жыгалка) ускладаліся вялікія надзеі, добры быў і стартавы рэйтынг беларусаў – сямнаццаты.

Напачатку беларусы перайгралі Малайзію (3,5:0,5) і Аўстралію (2,5:1,5). Але трэці тур прынёс паражэнне ад Ірана (1:3), неблагой каманды, ды ўсё ж не «супердзяржавы». Потым Беларусь палепшыла сваё становішча трыма перамогамі: над Казахстанам – 2,5:1,5, Аўстрыяй – 3:1, Турцыяй – 2,5:1,5. На жаль, наступныя тры туры прынеслі паражэнні ад Арменіі і Расіі – па 1:3, ад першай зборнай Грузіі – 1,5:2,5. Фінішавалі нашы суайчыннікі перамогамі над Таджыкістанам (3:1) і Чылі (3,5:0,5) і ў выніку з 14 баламі апынуліся на трыццатым месцы.

На першай дошцы Уладзіслаў Кавалёў набраў 6 ачкоў з 9 (4 перамогі, 1 пройгрыш, 4 нічыі, у тым ліку з «грандамі» Лявонам Аранянам і Сяргеем Каракіным). У Сяргея Жыгалкі – 5,5 з 10 (+3,-2,=5), у Аляксея Аляксандрава – 4,5 з 9 (+3,-3,=3), у Кірыла Ступака – 5,5 з 9 (+2,-0,=7), у запаснога Аляксея Фёдарава – 3,5 з 7 (+2,-2,=3).

**Алішэр Карымаў (Таджыкістан) – Аляксей Фёдараў**

1.e4 c5 2.Кc3 Кc6 3.g3 g6 4.Cg2 Cg7 5.d3 d6 6.f4 e6 7.Кh3 Кge7 8.0-0 0-0 9.Сe3 b6 10.Кg5 d5 11.Cf2 d4 12.Кe2 h6 13.Кf3 f5 14.e5 Cb7 15.c3 dc 16.bc Фd7 17.d4 c4 18.Сe3 Кd5 19.Сc1 b5 20.Кh4 Крh7 21.g4 a5 22.gf gf 23.Лf3 b4 24.Cd2 bc 25.С:c3 Кcb4 26.Фd2 Лg8 27.Лg3 Cf8 28.Л:g8 Кр:g8 29.Лf1 Сe7 30.Кf3 Крh7 31.Кe1 Лg8 32.Кg3 Сh4 33.Лf3 Фa4 34.Фb2 Фd1 35.Крf2 К:c3 36.Ф:c3 С:f3 37.С:f3 Фb1 38.Ф:c4 Ф:a2+ 39.Ф:a2 К:a2 40.d5 Кb4 41.d6 a4 42.Cd1 Лa8 43.Кf3 a3, 0:1.

**Валянцін Драгнеў (Аўстрыя) – Сяргей Жыгалка**

1.d4 Кf6 2.c4 e6 3.Кf3 b6 4.g3 Сa6 5.b3 Сb4+ 6.Сd2 Сe7 7.Кc3 0-0 8.Сg2 c6 9.e4 d5 10.ed cd 11.Кe5 Сb7 12.0-0 Кc6 13.Сf4 Лc8 14.Лc1 Сa3 15.Лc2 a6 16.Кa4 Лe8 17.Лe1 Сb4 18.Лe3 h6 19.c5 К:e5 20.С:e5 Кd7 21.Сd6 Сc6 22.Фc1 С:a4 23.ba bc 24.dc Лc6 25.Сf1 Фa5 26.Лf3 С:c5 27.Фf4 f6 28.С:c5 Л:c5 29.Лb2 Кe5 30.Лfb3 Лd8 31.Лb7 d4 32.Лa7 Лc7 33.Л:a6 Фe1 34.Лe2 Фd1, 0:1.

## Вынік «вышэй галавы»

У жаночым турніры Алімпіяды змагаліся 150 каманд: 1.Кітай; 2.Украіна – па 18 балаў; 3.Грузія (першая зборная) – 17. Наша жаночая зборная (капітан Андрэй Кавалёў) мела 36-ы стартавы рэйтынг, але фінішавала на 18-м месцы з 15 баламі і нават заваявала «серабро» ў сваёй рэйтынгавай групе «В».

Пачалі беларускі з перамог над Мальтай (3,5:0,5) і Харватыяй (2,5:1,5), потым саступілі Манголіі (1,5:2,5), перамаглі Туркменію (2,5:1,5), прайгралі Казахстану (1:3) і Нарвегіі (1,5:2,5). І тут ўдалося атрымаць тры перамогі запар: над Сальвадорам і Партугаліяй – па 4:0, над Швецыяй – 3,5:0,5. Пасля нічыёй са Славеніяй (2:2) нашы суайчынніцы ў апошнім туры перамаглі Ізраіль з лікам 2,5:1,5. На першай дошцы Вольга Бадэлька набрала 5,5 ачка з 10 (3 перамогі, 1 пройгрыш, 5 нічыіх). У Ланіты Сцяцко – 6 з 10 (+4,-2,=4), у Наталлі Кусянковай – 5,5 з 9 (+3,-1,=5), у Яны Ільючык – 7 з 10 (+6,-2,=2), у запасной Марыі Калядзіч – 4,5 з 6 (+3,-0,=3).

**Ланіта Сцяцко - Андрэа Ортэс (Сальвадор)**

1.e4 c5 2.Кf3 d6 3.Сb5+ Сd7 4.С:d7+ Ф:d7 5.c4 Кc6 6.d4 cd 7.К:d4 g6 8.Кc3 Сg7 9.Сe3 Кf6 10.h3 0-0 11.0-0 Лfc8 12.b3 К:d4 13.С:d4 b5 14.К:b5 К:e4 15.С:g7 Кр:g7 16.Фd4+ Кf6 17.Кc3 Крg8 18.Лfe1 a6 19.Лad1 Лa7 20.Фe3 Лac7 21.Лd4 Фf5 22.Лf4 Фa5 23.Л:f6 ef 24.Кd5 Ф:a2 25.К:f6+ Крg7 26.Фd4 Фa5 27.Кg4+, 1:0.

**Яна Ільючык – Аляхандра Завала (Сальвадор)**

1.e4 c5 2.Кf3 d6 3.d4 cd 4.К:d4 Кf6 5.Кc3 Кc6 6.Сg5 e6 7.Фd2 a6 8.0-0-0 h6 9.К:c6 bc 10.Сf4 d5 11.Фe3 Сe7 12.Сe2 Фa5 13.Фg3 g6 14.Сe5 0-0 15.h4 Кd7 16.Сc7 Фc5 17.ed cd 18.Сd3 Крh7 19.h5 Лg8 20.hg+ fg 21.Сf4 Сf8 22.Фg5, 1:0.

## Праверце адказы

Задача В.Шаньшына, змешчаная ў «Народнай Волі» 16 кастрычніка 2018 года, рашаецца: **1.Фh3.**

Першымі правільна адказалі Міхаіл Малееў, Ігар Ананіч, Ігар Гулік, Васіль Жуковіч, Віктар Жук. На папярэднія заданні адказы даслалі Уладзімір Панько, Леанід Калодка, Ігар Гулік.

**Вадзім ЖЫЛКО.**

КРЫЖАВАНКА

# Добрыя словы – добрым людзям

**Па гарызанталі:** 1.Рэзкі гук, які ўтвараецца пры трэнні, сцісканні. 3.Абдыманне, праява ўзаемнага кахання. 6.Зямля, ніз. 8.Цалаванне чыёй-небудзь рукі – … павагі. 9.Тое, што нажыта. 10.Тэатральная п'еса жартаўлівага зместу. 11.Дзе каханне, там і нарада; … думка, адно сэрца (прык.). 13.У аддананага сэрца – цудоўныя … (прык.). 14.«Тым, хто на полі //З лецейка ў … ,//Дзякуй ім, родным, //Дзякуй за гэта!» – з верша П.Броўкі «Песня хлебу». 16.«Дзякуй Богу, добры … ідзе,//Шчодры вечар Каляду вядзе» – з верша Хв.Жычкі «Шчодры вечар». 17.У добрых гаспадароў куры па два … прыносяць (прык.). 19.Вечарынка з частаваннем. 22.«Дзень добры! Уставай! Які прастор шырокі!//Дзень добры, любая, … мой яснавокі!» – з верша А.Міцкевіча «Дзень добры». 23.Закончаная частка спектакля. 24.«Дзякуй, жыццё! //… найлепшы. //Дзякуй кажу табе шчырай душой» – з верша З.Белуша «Дзякуй». 25. … на печ – сцюжа на двор (прык.).

**Па вертыкалі:** 1.Запас чаго-небудзь. 2.«… , калі ласка» – слова, якое ўжываецца пры звароце да каго-небудзь як выказванне шкадавання за прычыненыя турботы. 4.Будзь здароў на ўвесь год, як зімовы … (пажаданне). 5.Для мядзведзя зіма – адна … (прык.). 6.Добрая справа … вякі жыве (прык.). 4. «Калі …», «дзякуй», «добры дзень» – //Ветлівыя словы//Чую ад людзей» – з верша Т.Кляшторнай «Ветлівыя словы». 12.Лік, на які дзеліцца другі лік. 15.Талісман. 16.«Трапіць госць у будзень, а ці ў … ://– Калі ласка, калі ласка, ў хату» – з верша П.Броўкі «Калі ласка!». 18.Добрага чалавека ў чырвоны … саджаюць (прык.). 20.«Дзень добры, Новы …! Будзь ласкаў,//Заходзь у хату, сядзь за стол. //І чарка будзе і кілбаска» – з верша Я.Коласа «Тосты». 21.Вялікая пасудзіна.

**Лявон ЦЕЛЕШ. г.Дзяржынск.**

### Адказы на крыжаванку

**Па гарызанталі:** 1.Рып. 3.Мілаванне. 6.Дол. 8.Знак. 9.Здабыча. 10.Фарс. 11.Адна. 13.Вочы. 14.Лета. 16.Снег. 17.Яйкі. 19.Ігрышча. 22.Анёл. 23.Акт. 24.Падарунак. 25.Кот. **Па вертыкалі:** 1.Рэзерв. 2.Прабачце. 4.Лёд. 5.Ноч. 6.Два. 7.Ласка. 12.Дзельнік. 15.Амулет. 16.Свята. 18.Кут. 20.Год. 21.Чан.



Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.
Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info
Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ



Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 04.02.2019 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 23 060 экз. Заказ № 522.


9 772071 964000 19010